


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Уладзіслаў Петрук→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3061) Год LX | Беласток, 11 студзеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Паводле Евангелля прынята, што Ісус Хрыстос нарадзіўся ў Віфлееме. Дакладнае месца народзін Хрыста было ўзгоднена тры стагоддзі пазней. Указвае яго базіліка Раства Хрыстовага. Першы храм у гэтым месцы пабудаваў імператар Канстанцін Вялікі ў 325 годзе. У падзямеллях храма знаходзіцца Пячора Нараджэння, у якой — паводле хрысціянскай традыцыі — прыйшоў на свет Ісус. Побач Пячоры знаходзіцца Капліца Ясляў. Менавіта тут Божая Маці паклала Новانароджанага. Усе гэтыя і іншыя царкоўныя памяшканні не аднойчы перабудоўваліся, але і так з'яўляюцца вельмі цеснымі.



# Храм Раства Хрыстовага ў Віфлееме





Да базілікі Раства Хрыстовага прылягае некалькі іншых храмаў розных хрысціянскіх канфесій. З іх найбольш вядомая рымска-каталіцкая царква святой Кацярыны, адкуль калядныя набажэнствы транслююцца на ўвесь свет. Аднак самая базіліка падзелена паміж рознымі канфесіямі (армянскай, праваслаўнай грэцкай ці лацінскай) — не заўсёды з сабою згоднымі.

А ўлічваючы натоўпы вернікаў, трэба сваё адстаяць, каб прылажыцца да гэтых месцаў. Вядома, кожная пілігрымка ў Святую Зямлю, ці экскурсія абавязкова вядзе праз Горад Божага Нараджэння. Сам Віфлием налічвае зараз каля ста тысяч жыхароў, з якіх толькі пятая частка — хрысціяне, хаця ў мінулым стагоддзі было іх больш за 40 працэнтаў. З аднаго боку па розных прычынах хрысціяне выязджаюць адсюль, але сем'і маюць менш людныя, чым мусульмане. Многія помняць як у пачатку апошняга стагоддзя палесцінскія тэрарысты перартымлівалі хрысціянскіх манахаў. Не абышлося без ахвяр.

Але так палесцінцы — мусульмане і хрысціяне — ды габрэі жывуць як гаворыцца з... турыстаў. Таму арабскі Віфлием адносна бяспечны. Наш экскурсавод Шахар — мусульманін, адзін з двух польскамоўных гідаў у цэлым горадзе. Другім з'яўляецца ягоная польская жонка. Сам ён выпускнік Варшаўскай палітэхнікі і Віфліемскага ўніверсітэта. Вянчаўся два разы, у Польшчы ў касцёле, а ў Палесцінскай Аўтаноміі — ужо паводле мусульманскай традыцыі. І ў такой традыцыі выхоўваюць дзяцей, з якіх найстарэйшы сын хоча, як і бацькі, стаць гідам.

Крыху Шахар круціць носам, маўляў, для сужонства мала экскурсій, а што яшчэ для сына. Звычайна большасць паломнікаў ездзіць са сваім святаром-гідам і не хочуць яны наймаць мясцовага экскурсавода. Але, калі распавядае пра свае цікавыя экскурсіі, дык вельмі цёпла гаворыць пра аднаго турыста. Менавіта па Віфліеме вадзіў не абы-каго, а самога прэзідэнта Браніслава Камароўскага. Не адказаў на пытанне нашай групы ці кіраўнік польскай дзяржавы даў нейкі экстра бакшыш (гасцінчык).



Наш гід добра валодаў польскай мовай і ведамі пра гісторыю ды сучаснасць. Побач храмаў можна было сустрэць фальшывых экскурсаводаў, якія за невялікі кошт шмат чаго абяцаюць паказаць і расказаць, або прадаць за добрую цану. Гэтых трэба пазбягаць.

— Piekna pani, kupi ode mnie ta różaniec, tylko 1 dolar, za 5 dolar 10 różaniec i olejek...

А калі тая пані не купіць, дык пачуе з вуснаў таго ж самага чалавека, таксама на польскай мове, менш прыемныя словы...

Важную ролю ў Віфліеме адыгрываюць усяго роду сувеніры. Трэба ж нешта прывезці са Святога Месца. Толькі таксама трэба ведаць дзе і што купляць. Нашую групу вазілі ў хрысціянскія крамы і маю ўражанне, што не ашукоўвалі, як тыя на вуліцы ці пры цэрквах. Дарэчы і начавалі мы ў гасцініцы, якой уласнікамі з'яўляюцца хрысціяне, што, дарэчы, можна было пазнаць па продажы спіртнога. У мусульман ні ў крамах, ні ў кафэ-барах піва ці віна не купіш.

Але вяртаемся да Пячоры Божага Нараджэння — пасля двухгадзіннай чаргі (гэта вельмі хутка) удалося і мне дакрануцца да месца, дзе нарадзіўся Збаўца. Уражанне незабыўнае і несамавітае. Самыя вусны складаюцца да малітвы, а польскія ці рускія групы ў Капліцы Ясляў (тут больш месца і часу) спяваюць калядкі. Нават партугальцы праспявалі сваю калядку.

Другім не менш цікавым месцам у Віфліеме з'яўляецца царква Малочнай Пячоры. Назва паходзіць ад беласнежнай скалы, на якой яна стаіць. Паводле прытчы, калі Божая Маці карміла Немаўлятка, кропля малака з грудзей упала на скалу і тая пабялела. Ці сапраўды так было? Гэта легенда, у якую можам верыць, або і не.

А сучаснасць Віфліема гэта перш за ўсё турысты, паломнікі і... мур, які раздзяляе Палесцінскую Аўтаномію ад дзяржавы Ізраіль. Мур не толькі як сцяна, у фізічным значэнні, але і мур нянавісці і варожасці, сцяна незразумення і нават нежадання разумець. Праўда, ёсць зрухі сярод маладых — ці гэта палесцінцаў, ці габрэяў, каб жыць не супроць сябе, а хаця побач сябе, калі не для сябе. Пры выездзе з зоны Аўтаноміі — пасты, засекі з калючага дроту ды кантроль дакументаў і багажу. Па ізраільскім баку мур чысты, без ніякіх малюнкаў, а па палесцінскім цэлы ў графіці — з вельмі цікавымі малюнкамі.

Мне пашанцавала адведаць Святую Зямлю, ці лепш казаць «Зямлю святых» вясной, перад Пасхай. Не было натоўпаў і паломнікаў, было даволі спакойна. Пару месяцаў пазней, калі пачалася вайна ў сектары Газа, большасць экскурсій, калі не ўсе, была адклікана. Можна было на сваю адказнасць ладзіць паломніцтвы, але мала што тады ўбачыш на месцы. Так што «Святая Зямля» чакае свайго часу.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**





# Задам на казе

Ну вось і правялі мы цяжкі 2014 год і сустрэлі новы 2015, які пакуль невядома што прынясе чалавецтву і кожнаму з нас. Гэта ў дзяцінстве кожны Новы год успрымаўся заўсёды як суцэльнае шчасце і няземнены цуд. З гадамі мы становімся дарослымі, потым старэем і непазбежна губляем свежасць уражанняў і радасць тых далёкіх дзіцячых адчуванняў. І ўсё болей прыходзім у сваіх разважаннях да старой як свет мудрасці: „Спадзяемся на лепшае, рыхтуемся да горшага". Дык што прынясе беларусам гэты, паводле ўсходняга календара, Год Казы?

Чарговы пераход з году ў год для насельнікаў Беларусі быў асаблівым. Упершыню за апошнія дваццаць гадоў яны сустракалі Новы год у адзін час з Масквой, але таксама ўпершыню не пабачылі на агульнадаступных каналах кіраўніка суседняй дзяржавы і не паслухалі бою крамлёўскіх курантаў. Гэта да філасофскага пытання, што ў кожнай з'яве можна знайсці і нешта пазітыўнае. Значная частка беларусаў увогуле павыключала тэлеканалы, дзе транслявалася віншаванне самі ведаеце каго, каб не слухаць яго зусім. Гэта ўжо стала таксама традыцыяй, прынамсі апошніх дзесяці гадоў. Многія насуперак вызначанаму на сёння часу, сустракалі Новы год на гадзіну пазней, так як і мусіла быць, фактычна па віленска-кіеўскім часе. Магу засведчыць, што ў гэтую „сапраўдную" гадзіну ў Гродне шмат хто ў навагоднюю ноч салютаваў феерверкамі. Адсоткаў жа асабістых сімпатый у Беларусі даўно ніхто не ведае, гэта вялікая таямніца нашага часу.

Настроі беларусаў у 2014 г. былі рознымі і мяняліся ў адпаведнасці хіба што з курсам беларускага рубля да долара. Так ужо збудаваны гэты свет, што большыня людзей вымярае асабістае шчасце пераважна матэрыяльнымі здабыткамі. Сучасныя беларусы таксама такія, таму і душацца ў розных чэргах пры першай жа магчымасці. Вось у Кітаі на гэты Новы год дзясяткі людзей падушыліся фізічна насмерць з-за таго, што нехта скінуў з даху ў натоўп фальшывыя доларавыя купюры. Такое магло здарыцца і з нашымі людзьмі, якія ствараюць падобную цісканіну ў розных маркетах, калі выкідваюць нешта таннае альбо са значнымі зніжкамі.

З 1 студзеня юрыдычна беларусы прачнуліся ў новай геапалітычнай рэальнасці — у так званым еўразійскім саюзе. Ніхто, канешне, у грамадзян нашай дзяржавы не пытаўся ці хочуць яны ў той саюз. Амаль нікому з гэтых грамадзян непатрэбны, прыкладам, бязвізавы ўезд у Казахстан — 99% адсоткаў жыхароў там не былі і не маюць ніякіх інтарэсаў. Памкненні тых беларускіх грамадзян, якія хочуць жыць заможна, скіраваны якраз на Захад. Беларусы хочуць бязвізавага ўезду ў Еўропу, а не ў Расію і тым больш Кыргызстан ці Узбекістан. Але Беларусь надалей застаецца эксперыментальнай пляцоўкай і самай закрытай краінай Еўропы ва ўсіх сэнсах. Тут цэлы час спрабуюць рэанімаваць савецкую сацыялістычную мадэль, якая фактычна перамешваецца з сучасным капіталізмам.

З 1 студзеня насельнікаў Беларусі чакаюць новыя падвышаныя падаткі і пошліны, новыя павялічаныя штрафы, напэўна можна прагназаваць і дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Чыноўнікам і рэпрэсіўнаму апарату таксама не будзе проста. Пасля абвалу расійскага рубля на радзіму вяртаецца цэлая армада гастарбайтараў — гэтая працоўная сіла за сто доляраў у месяц працаваць не будзе, паўстае пытанне — куды яны падзенуцца. А ўжо складзены і спісы так званых „дармаедаў", якіх гвалтоўна хочуць прымусіць працаваць.

Ну і асноўны боль галавы 2015 г. — гэта афармленне чарговага прэзідэнцкага тэрміну Гаранта стабільнасці. Разграміўшы фізічна за папярэднія дзесяцігоддзі фактычна ўсіх сваіх сур'ёзных апанентаў, Гарант атрымаў самага моцнага апанента — самога сябе. За гэтыя гады электарат прывык да халявы, да поўнай „кармушкі", да той славутай і дэкляраванай „стабільнасці". А забяспечваць гэты „сацыяльны рай" пры поўнай адсутнасці рэформаў усё цяжэй.

Дык што будзе ў 2015 г. з Беларуссю? Думаю, што наша краіна прадоўжыць свой рух. Але рух гэты будзе задам на казе.

Усіх з Новым Годам!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Ніхто іншы



У першы дзень года, «грыгарыянскага» Новага года, спыніўся перад маёй брамкай конь. Конь сапраўдны. Цяжка дыхаючы ад бегу, успенены на пысе, успацелы, нервова хітаючы хамутом, з тырчаўшай дугой над распырханым ілбом, запрэжаны ў двухаглоблевую фурку з лавачкай паміж гнаянак і на балёнавых колах. Даўно я ўжо такога цуду з мінулага не бачыў. Здаецца, у апошні раз тры гады таму перад крамай у Нарве. Стаялі так, значыць, фурка, конь, а за ім нейкія «мерседэсы», «опелі», «форды»... Калісь і мяне забіраў мой дзедка на такія далёкія пакупкі: па два мяхі солі, мяшок цукру, банку нафты, шпульку тонкіх нітак для бабулі і жменю склееных... карамелек для ўнука. Смакталі мы іх разам з дзедкам на зваротным шляху, пільнуючыся, каб хоць некалькі цукерак пакінуць для бабулі.

Я выйшаў на ганак — узбуджаны, заінтрыгаваны. З фуркі вылузваўся мой знаёмы, жыхар наднараўскага трыснягу, пасяліўшыся там на прадзедаўскім хутары. Я быў у яго раз ці два разы ў гасцях. Малая хатка, клунька, хляўчук і сабачая будка пастаўлены на пясчаным узвышшы, адкуль адкрываецца шырокі від на прадалінныя балотна-чаротавыя поймы Нарвы. Калі рака яшчэ свабодна выплывала з берагоў, калі яна была вольная ад ярма семяноўскіх плацін, а дзікія лугі апляталі шматлікія шчупальцы старыц, тое пясчыстае плытководдзе з западаючыміся ў яго будынінамі здавалася быць самотным чалавечым востравам у вялізным акіяне. Мабыць, Востравам Пасхі, найбольш самотным з усіх выспаў? Ці, можа быць, райскімі Гаваямі? У летні перыяд, калі ападалі воды, праз чаротавыя лугі разбягаліся чалавечыя сцежкі — адны вялі да хутаровых пагоркаў напрасткі праз раку да бліжэйшай у некалькіх кіламетрах крамы; другія вялі да азярцоў, званых затокамі, кіпучымі ад рыбы і розных кузак. Кузак якраз — а не нейкіх там мястовых казуракнасякомых! Зіма, да першага снегу, калі затокі скоўваў цвёрды лёд, ператварала іх у бясконцы каток. Толькі хто з сельскіх хлопцаў меў тады канькі? Мы слізгаліся на чаравіках. Хто меў іх ад свайго бацькі, надзейныя і на жорсткай скуранной падэшве, той быў чэмпіёнам па слаламе паміж грудамі замарожаных траў, выступаючых над ледзяным покрывам. І так аж да зіхоткага ад сонца гарызонту. Але тыя, у валёнках, каліззулі з іх калошыкі, таксама круцілі прыгожыя піруэты на пятках... Такія ўспаміны прывёў мой знаёмы сваім нечаканым візітам. А ён быў вельмі ўзлаваны. З імпэтам раскрыў варотцы і перажоўваючы ў сабе невядомы гнеў, пагрозліва спытаўся: «Ты?!. А ты, гэта ты?» — «Як гэта, ці я гэта я? — здзівіўся я. — А што, не пазнаеш мяне?» — «Пазнаю, чаму не! Але ці ты гэта ты?» — паўтарыў задзірыста. Я прызнаюся, што амаль не звар'яцеў. Мае ж рукі — мае. Ногі і галава таксама. І розум. Без сумневу, гэта я. А тут падрываюць маю тоеснасць, маё канікульнае дзяцінства ў вёсцы і перадверасьнёвыя вяртанні да бацькоў у горад, тугу, вырэзваную наканечнікам цыркуля на школьнай парце — тыя глыбока выразаныя літары, згадваючыя скрып жорава ля студні, пах малака з вячэрняй дойкі і свежаскошанага сена, супольныя вячэры з бабуляй і дзядулем пры пробліскаx газоўкі і тыя доўгія, поўныя задуменнасці змярканні, што расцягваліся аж да світання несуцішным астаткавым малюнкам сонца... «О, — падумаў я, — шыкуецца сур'ёзнае пытанне». Запрасіў я кампаньёна ў хату і пачаў распытваць яго далікатна, што і як. Ну, гэта было так. У дзень да Новага года паштальён прынёс на іх востраў штотыднёвік «Ніва» з календаром. Вось жонка прысела каля акна, прачытала першую старонку, адвярнула другую, а там — фатаграфія. Пыса на ёй быццам знаёмая, але, вядома, неабавязкова знаёмая. — «Э-э, здаецца, хіба не ён, — прамармытала сабе пад нос кабета. — Ну, паглядзі сам, — павярнулася да мужа: — Ён ці не ён?!» — «Мусіць, ён», — выказаў меркаванне муж. — «Э-э, — не можа быць», — засумнявалася жонка. І так, ад слова да слова, яны пасварыліся. Я не хачу быць прычынай іх сваркі, а ўсё ж быў. Можа, на самой справе, гэта не я? На наступны дзень жонка зноў сваё... Тады мой знаёмец не стрываў, запрог каня ў фурку і раз-два прыбыў да мяне. «Ты гэта ты?! Той, што піша ў «Ніву», гэта ты?» — спытаўся на канец. — «Ну, я», — адказаў я з палёгкай. — «О, гэта добра!» — уцешыўся знаёмец. На развітанне перадаў я яму святочныя пажаданні. Не менш шчырыя пажаданні здаровых і радасных свят перадаю я і ўсім чытачам «Нівы», гарантуючы адразу, што я гэта я, сапраўды я. Ніхто іншы.

Міраслаў ГРЫКА



**Вачыма еўрапейца**

# Год пад знакамі дэфіцыту

Паводле паведамлення новага падляшскага маршалка Мечыслава Башко і ваяводскага скарбніка Генрыка Грыкі бюджэт 2015 года мае дазволіць на далейшае развіццё рэгіёна. Падляшша — найменш задоўжанае ваяводства ў краіне, а ў разлку на душу насельніцтва тут выдаецца найбольш грошай на ахову здароўя.

— Планаваныя на 2015 г. прыбыткі крыху меншыя, чым у 2014 г., што звязана з меншым памерам субвенцый (субвенцыя з дзяржаўнага бюджэту для нашага рэгіёна мае быць на 26 працэнтаў меншай ад мінулагодняй — М. Х.), як таксама з завяршаючайся фінансавай перспектывай ЕС. Тым не менш, знаходзімся на парозе пачатку наступнай, надзвычай спрыяльнай перспектывы для нашага ваяводства, дзе для выкарыстання будзе рэкордны памер фінансавых сродкаў, — сказаў маршалак у час нядаўняй бюджэтнай прэс-канферэнцыі

Нягледзячы на зніжэнне прыбыткаў, выдаткі на культуру, у тым ліку нацыянальных меншасцей Падляшша, застануцца нязменнымі. У рамках сёлетніх інвестыцый грошы могуць быць прызначаны, у прыватнасці, на «Высокапрапускную сетку Усходняй Польшчы» (153,5 млн. зл.), перабудову ваяводскай дарогі № 686 Міхалова — Юшкаў Груд (58,9 млн. зл.) ці рэалізацыю праекта «Веласіпедныя маршруты ў Падляшскім ваяводстве» (23 млн. зл.). Адным з асноўных інвестыцыйных выдаткаў павінна быць пабудова аўтастаянкі вакол Падляшскай оперы і філармоніі (4 млн. зл.).

У праекце бюджэту Падляшскага ваяводства на 2015 г. плануецца прыбытак у памеры амаль 729 млн. зл., а выдаткі больш за 847 млн. зл. Дэфіцыт бюджэту, як чакаецца, складзе амаль 118 млн. зл. У супастаўным Свентакшыскім ваяводстве, у прынятым ужо тамашнімі раднымі бюджэце на 2015 г. з выдаткамі больш за 689 млн. зл., і даходах у амаль 615 млн. зл., дэфіцыт дасягне толькі 74,6 млн. зл. Маршалак Башко тлумачыў журналістам:

— Планаваныя на 2015 г. прыбыткі крыху меншыя, чым у 2014 г., што звязана з меншым памерам субвенцыі, а таксама з завяршаючайся фінансавай перспектывай ЕС. Тым не менш, знаходзімся на парозе пачатку наступнай, надзвычай спрыяльнай перспектывы для нашага ваяводства, дзе для выкарыстання будзе рэкордны аб'ём фінансавых сродкаў.

Падкрэсліў:

— Ад шасці гадоў Управа Падляшскага ваяводства прызначае шмат грошай, каб палепшыць сітуацыю ў сферы аховы здароўя. Няйначай будзе і ў гэты раз, а планаваныя на 2015 г. выдаткі на бальніцы з'яўляюцца самымі высокімі ў краіне ў пераліку на душу насельніцтва. Вядома, найбольш з іх трапіць у маршалкоўскія Беластоцкі цэнтр анкалогіі і Ваяводскую бальніцу імя Янджэя Снядэцкага ў Беластоку.

17,5 млн. зл. запланаваны ў бюджэце на 2015 г. на рэгіянальныя перавозы, а 21,1 млн. зл. — на даплаты да аўтобусных маршрутаў. Маршалак пераконваў:

— Утрыманне чыгуначнага маршруту Сувалкі — Беласток — Варшава — для нас прыярытэт, хоць, вядома, і іншыя маршруты вельмі важныя для нас.

Пры абмеркаванні праекта бюджэту ваяводскі скарбнік тлумачыў ці планаваны дэфіцыт мог бы быць не такім велізарным:

— У 2014 г. планавы дэфіцыт склаў 88 млн. зл., на 2015 г. запланаваны на 118 млн. зл. Дазвольце мне нагадаць, што ў 2011 г. дэфіцыт планавалі мы ў памеры 119 млн. зл., але ў канчатковым рахунку быў ён значна меншы. Таксама будзе і цяпер. Большая частка дэфіцыту з'явіцца сумай гарантый для бальніц, і не было яшчэ сітуацыі, каб шпіталі не пагасілі сваіх абавязацельстваў.

Дэбаты па бюджэце адбудзецца ў час сесіі Падляшскага сейміка 12 студзеня. Гледзячы на нядаўнія персанальна-кампетэнтнасныя трэнні ў кіруючай Падляшшам кааліцыі ПСЛ-ГП, прапанаваны маршалкам Башко праект бюджэту не мусіць прайсці так гладка. Цалкам магчыма, што радныя Грамадзянскай платформы прадставяць уласнае бачанне на тэму даходаў, расходаў, дэфіцыту і запланаванага трыццацімільённага крэдыту. Дэбаты і галасаванне па форме бюджэту могуць быць яшчэ адным выпрабаваннем для кааліцыі. Ці, можа, заб'юць цвік у труну?

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

**Сёлетнія, шаснаццатыя ўжо «Трыялогі» ў Крынках, па ідэі арганізатараў — Фонду «Віла Сакрата» — маюць быць арганізаваныя пад лозунгам «Тутэйшыя». Падобна як і ў папярэднія два гады, запланаваны тры публічныя дыскусіі, прысвечаныя літаратуры, мастацтву і палітыцы. Тым часам Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, якое дафінансоўвае меншасныя арганізацыі і іх мерапрыемствы, адхіліла заяву Фонду і не дало на гэтую мэту ні граша. Заява быццам бы не адпавядала крытэрыям: адпаведнасць з мэтамі, выкладзенымі ў Законе аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове, ступені ўзаемадзеяння задач на асобы, якія належаць да беларускай меншасці з мэтай захавання іх ідэнтычнасці, эфектыўнасць рэалізаванай задачы — з чаканымі вынікамі ў параўнанні з планаванымі коштамі.**



Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Міністэрскае вызначэнне беларушчыны

«Трыялогі» ў Крынках з'яўляюцца працягам у новай формуле мерапрыемства памерлага ў лютым 2013 года Сакрата Яновіча. Фінансуецца яно з некалькіх крыніц. У гэтым годзе — у адпаведнасці з заявай, прадстаўленай у МАіЛ — як і раней, яе мэтай з'яўляецца м.інш.: павышэнне ўзроўню актыўнага ўдзелу і ведаў аб літаратуры, культуры і палітыцы пражываючых у Польшчы беларусаў, забеспячэнне доступу да ведаў аб высокай культуры ў беларускім кантэксце для прадстаўнікоў беларускай меншасці ў Польшчы, змена іміджу і павелічэнне рангу высокай беларускай культуры, у цяперашні час здамінаванай простай бяседнай песняй і фальклорам, грамадска-культурная інтэграцыя людзей розных нацыянальнасцей, нацыянальнага паходжання і рэлігіі, сустрэчы з выдатнымі аўтарытэтамі са свету літаратуры, культуры і палітыкі маюць інспіраваць і быць стымулам для актыўнай дзейнасці і творчасці асабліва для беларускай меншасці ў Польшчы.

## Спадчына ад Сакрата Яновіча

Сёлетнія «Трыялогі» мелі б адбыцца 28-29 жніўня. Арганізатары ў заяве ў МАіЛ падкрэслілі, звяртаючыся да лозунга «Тутэйшыя»: «Мы лічым, што характар сімпозіума будзе ўплываць на погляды і бачанне беларушчыны ў кантэксце беларусаў у Польшчы, а таксама на ўспрыманне беларускай культуры ў польска-беларускім вымярэнні». Сярод удзельнікаў дыскусіі апынуліся б такія асобы з Беларусі, як Святлана Алексіевіч, пісьменніца вылучаная на атрыманне Нобелеўскай літаратурнай прэміі, Валяцін Акудовіч, адзін з найвялікшых еўрапейскіх постмадэрніцкіх філосафаў, Вінцук Вячорка — беларускі палітык. Аб больш шырокіх еўрапейскіх кантэкстах тутэйшасці-беларускасці мелі б разважаць знакамітыя госці, як сусветнага класа мастацтвазнаўца і куратар Анда Ротэнберг, італьянскі пісьменнік і эсэіст Клаўдыё Магрыс ці Клаас Нордэнгаке са Швецыі, калекцыянер сучаснага мастацтва, заснавальнік і дырэктар прэстыжнай галерэі Nordenhake. У семінарах, праведзеных на беларускай і польскай мовах, мелі б удзельнічаць легенды культуры гэтага рэгіёна Еўропы: Лявон Вольскі, Алесь Анціпенка, Ольга Такарчук і Тадэвуш Канвіцкі. Абгрунтоўваючы тэму сустрэчы, у прапанове ўдакладняецца: «Сёння, па абодва бакі польска-беларускай мяжы паняцце тутэйшасці да гэтага часу мае падобны сэнс, асіміляцыя тутэйшых у такіх складаных палітычных і эканамічных адносінах, а заадно прывязанасць да гістарычнай свядомасці пацвярджае нам як цяжка сёння быць тутэйшым — у нашым выпадку беларусам». Дададзена: «Хоць Сакрат Яновіч больш не возьме голасу ў гэтай дыскусіі, Фонд «Віла Сакрата», як захавальнік яго спадчыны, ставіць сабе за мэту працяг думкі Сакрата Яновіча і ўтрыманне ва ўсеагульнай памяці яго слоў у беларускіх справах. Паколькі Беларусь была для Сакрата Яновіча самай важнай у жыцці, вакол гэтай краіны кружылі ягоная творчасць, думкі і дзеянні. На пагранічча, а таксама ва ўсёй Польшчы развіццё культуры забяспечвае толькі шматнацыянальны дыялог, а ніводная культура не захавае свежасці без дыялогу з «суседзямі». З гэтага пункту гледжання польская культура патрабуе беларускай культуры для свайго развіцця».

Пасля «Трыялогаў» традыцыйна мае быць выпушчаны наступны нумар штогодніка «Annus Albaruthenicus», часопіса калісь пад рэдакцыяй Сакрата Яновіча, выдаванага з 2001 г. «Вілай Сакрата». Мэтай стваральнікаў штогодніка заўсёды была прэзентацыя беларускай культуры, асабліва культуры польскіх беларусаў і прасоўванне гэтай культуры сярод атрымальнікаў у Заходняй Еўропе. Таксама сёлета тэксты ў «Годзе беларускім» маюць быць апублікаваны на беларускай і польскай мовах, даступныя бясплатна для ўстаноў і цэнтраў гуртуючых беларускую меншасць у Польшчы і за мяжой.

## Каб вынікала беларускасць

Дэпартамент рэлігійных канфесій і нацыянальных і этнічных меншасцей МАіЛ (яго супрацоўнікі ад многіх гадоў бывалі на «Трыялогах» і гэтае ведамства суфінансавала дасюль гэтае мерапрыемства), даглědзеўся ў заяве Фонду цэлага шэрагу недахопаў. Заяўнікаў заклікалі да іх ліквідацыі. У самым пачатку адзначана было, што з-за абмежаванняў дзяржаўнага бюджэту ў 2015 годзе запрошаная сума 35 тыс. зл. не ўяўляецца магчымай, і прапануецца яе скараціць да 20 тыс. зл. Патрабавалі, між іншым, перарэдагавання тэмы («Тутэйшыя»), «так каб вынікала з гэтага адназначна значнасць гэтай канцэпцыі для культурнай самабытнасці беларускай меншасці» і яго апісанне, каб «адназначна вынікала значэнне тэмы, якая будзе ажыццяўляцца, на захаванне і развіццё культурнай самабытнасці беларускай меншасці ў Польшчы». Папрасілі таксама растлумачыць, «якія сувязі з пытаннямі, датычнымі да культурнай самабытнасці беларускай меншасці» маюць Анда Ротэнберг, Клаас Нордэнгаке, Ежы Онух (пераліčаны ў якасці ўдзельніка адной з публічных дыскусій, былы дырэктар Цэнтра сучаснага мастацтва ў Кіеве) і Клаўдыё Магрыс. У адной з агаворак было адзначана, што ні ў адной з дэбатаў не пераліčаны асобы, якія належаць да беларускай меншасці, а ўдзельнікамі дыскусіі з'яўляюцца госці з Італіі і Швецыі. Таксама было запрошана, каб пададць, колькі працэнтаў тэкстаў, якія будуць змяшчацца ў наступным нумары «Annus Albaruthenicus» будзе па-беларуску. У канцы папрасілі Фонд грунтоўна прааналізаваць праграму мерапрыемства і разгледзець яе такім чынам, каб рэалізацыя задач адназначна служыла захаванню і развіццю культурнай самабытнасці мерапрыемства». Пасля атрымання гэтага ліста каардынатар «Трыялогаў» і старшыня Фонду «Віла Сакрата» Павал Грэсь адбыў гутарку з чыноўнікамі МАіЛ. Фонд заявіў, што не лічыць мэтазгодным дастасоўванне заявы да ўсіх накіраваных указанняў: «Падчас шаснаццатых «Трыялогаў» у Крынках хочам дыскутаваць над феноменам беларусаў выкарыстоўваных расійскай і польскай прапагандай, стаўленні нацыі, беларускай мовы і культуры, што маецца на ўвазе пад паняццем «Тутэйшыя». Для нас, беларусаў, гэта вельмі важная, але не новая праблема, рашаючая аб нашай ідэнтычнасці і, такім чынам, якасці беларусаў у Польшчы». Было адзначана, што матыў «Тутэйшых» з'яўляецца ў літаратуры здаўна (ад п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя» да аднайменнай культавай ужо знакамітай песні Лявона Вольскага). Было дададзена: «У паўсядзённым жыцці беларусаў на Беласточчыне гэтае слова да гэтага часу выкарыстоўваецца наўмысна, каб выклікаць думкі аб непаўнацэннасці нашай мовы, звядзення культуры і беларускага народа да лакальнасці і фальклору. Гэта не ёсць феномен, выступаючы толькі на Беласточчыне, паколькі прапаганда ў многіх краінах выкарыстоўвае тую ж схему, зневажаючую меншасць на фоне масы». І далей у гэтым кантэксце абгрунтавана прысутнасць на «Трыялогах» такіх а не іншых удзельнікаў дыскусіі, паддадзеных пад сумнеў Міністэрствам і адзначаны ўдзел у дыскусіі Канстанціна Бандарука, як прадстаўніка беларускай меншасці ў Польшчы (да гэтага часу шмат у «Трыялогах» прысутнічалі і актыўна ўключаліся ў дыскусіі і многія мясцовыя беларусы). Адзначана таксама: «Мы вельмі здзіўлены пазіцыяй МАіЛ, якое не ў стане зразумець, што прапанаваная намі тэма для нас, гэта падкрэсліваем як прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы, вельмі важная. Мы можам параўноўвацца толькі да байструкоў названых сіротамі».

## Удар па культуры?

У размове з «Нівай» Павал Грэсь пракаментаваў усю сітуацыю наступным чынам:

— У чарговы раз мы сутыкнуліся з сітуацыяй, што МАіЛ можа прызначыць датацыю на «Трыялогі» але выключна на сваіх умовах. Таксама калі гаворка пра дэвіз. На іх думку, паняцце «тутэйшыя» недастаткова звязанае з беларускай меншасцю ў Польшчы. Мы маем справу з умешваннем чыноўнікаў у асноўныя справы. Мы ашарашаны і абураны тым, што ў чарговы раз чыноўнікі лепш ведаюць, што значыць быць беларусам сёння ў Польшчы. Мы не прымаем гэтага. Ад многіх гадоў відаць, у які бок развіваюць «Трыялогі» і якая гэта для нас, беларусаў, важная падзея, зрэшты не толькі для беларусаў у Польшчы. Я лічу, што абавязваючы закон аб нацыянальных меншасцях, на які заўсёды МаіЛ спасылаецца пры размяркоўванні сродкаў на меншасці, абсалютна несапраўдны. Чыноўнікі лепш ведаюць, што беларусы ў Польшчы павінны думаць, як сябе паводзіць, што рабіць, што чытаць, што пісаць і г.д. І гэта — абсурд. Паявілася нават паняцце працэнтнай беларушчыны, таму што нас разлічваюць за тое, у якім адсотку мы з'яўляемся беларусамі (у гэтым выпадку гаворка з пункту гледжання патрабаванняў наконт працэнта беларускіх тэкстаў у штогодніку «Annus Albaruthenicus» — М. Х.).

Мастацкі і сутнасны апякун «Трыялогаў», віцэ-старшыня Фонду, паважаны ў свеце мастак з Валіл Лявон Тарасэвіч сказаў:

— Калі слова «тутэйшасць» не датычыць, на думку чыноўнікаў, беларускасці, гэта штосьці кур'ёзнае, незразумелае. Даказаць, што муха з'яўляецца мухай? Якасць планаваных «Трыялогаў» не адрозніваецца ад папярэдніх. Усё, што звязана з прызначэннем датацый МАіЛ паказвае, каб не рабіць культуры на больш высокім узроўні, і падтрымліваюцца забаўляльныя мерапрыемствы, якія лёгка распісаць у міністэрскіх праграмах.

Патрабаваннямі МАіЛ наконт заявы Фонду і рашэннем непрызначэння датацыі абураны Павел Смаленскі, адзін з вядучых польскіх публіцыстаў, які кіраваў публічнымі дыскусіямі падчас леташніх «Трылогаў» у яго адслонах у Крынках і Беластоку (тут адбыліся ў рамках фестывалю «Усход культуры»):

— Гэта нейкае глупства і скандал. Калі забіраюць грошы на такія сустрэчы, як «Трыялогі». Гэта азначае, што не разумеюць, што адбываецца з Беларуссю, беларушчынай у Польшчы, у Беларусі і ў свеце. Не толькі беларуская, але і польская культура будзе абрабаванай, калі «Трыялогаў» не будзе. Такой падзеі не пасароме́ўся б нават Нью-Йорк. Як сказаў у час апошніх «Трыялогаў» Станіслаў Шушкевіч, Беласточчына гэта П'емонт, мабыць, апошняе месца, дзе так моцна захоўваюцца беларускія каштоўнасці.

З іншага боку, Адам Міхнік, галоўны рэдактар газеты — штодзённік «Gazeta Wyborcza», адзін з выступоўцаў на «Трыялогах» два гады таму, усхваляваны паводзінамі МАіЛ, сказаў у гутарцы з намі:

— Гэтае рашэнне выключна нядобрае, якое паказвае Польшчу ў вачах Еўропы з дрэннага боку. «Трыялогі» з'яўляюцца культурнай падзеяй, якая ад гадоў спалучае беларускіх і польскіх творцаў і іх нельга недаацэньваць. Удзельнічаюць у іх значныя інтэлектуалы. У Польшчы няма зашмат такіх дэбатаў, арганізаваных прытым асяроддзем нацыянальных меншасцяў. Калі б «Трыялогаў» не хапіла, быў бы гэта ўдар па беларускай і польскай культуры, страта для ўсяго рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Два гады таму падзеяй суправаджаючай «Трыялогі» была прэм'ера на рынку ў Крынках «Антыгоны» беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгер-

працяг ☞ 11

## Ноўтбук за вернасць роднай мове!

Мінулі самаўрадавыя выбары і мы — выбаршчыкі — ужо памалу забываем пра абяцанні, якімі засыпалі нас кандыдаты. Амаль усе гаварылі тады, што пры іх уладзе будзе нам лепш жылося, а нашая гміна пачне квітнець. Але не пра абяцанні хачу расказаць, толькі пра рашэнне чалавека, аб якім я ці нехта іншы павінен сказаць ужо чатыры гады таму.

Спадару Лявону Хлябічу, які жыве ў Нараўцы, жыхары зноў даверылі і ўжо на другі тэрмін ён здабыў мандат раднага.

Ці добра сталася? Я думаю, што так, і падпісваюся пад гэтымі словамі ад імя ўсіх школьнікаў і іх бацькоў абедзвюма рукамі. Варта, бо дае ён добры прыклад вучням, што навука важная і трэба яе цаніць. Як вядома, прыклад ідзе зверху, а калі гаварыць пра вучняў, яны надзвычай уважлівыя назіральнікі і ў спадару Хлябічу бачаць чалавека, які ў маладых людзях цэніць актыўнасць, працавітасць і жаданне ведаў.

Чатыры гады таму Лявон Хлябіч зрабіў вучням Гімназіі ў Нараўцы агромны сюрпрыз — за сваю дыету раднага купіў выпускніку гімназіі ноўтбук.



Наталля Марчук



Павел Засім

З 2012 года, паводле патрабавання спонсара, падарункамі былі ўзнагароджаны тыя вучні, якія не саромеюцца роднай мовы і маюць ужо свой уклад у падтрымку беларускай культуры.

Лаўрэатамі сталі:

у 2012 г. — Павел Засім,

у 2013 г. — Паўліна Драўноўская (яна спявае ў калектыве „Цаглінкі”),

у 2014 г. — Наталля Марчук.

Варта дадаць, што да моманту ўручэння ўзнагароды вучні не ведаюць, каго паклічуць на сярэдзіну гімнастычнай залы і хто з рук спадара Лявона Хлябіча атрымае ўзнагароду — падзяку за цяжкую працу, за актыўнасць, за годнае прадстаўленне Нараўчанскай гміны ў час конкурсаў і іншых мерапрыемстваў.

Варта тут задумацца чаму на працягу чатырох гадоў не паявілася наступная асоба, якая пайшла б за добрым прыкладам і стаяла б на канец школьнага года побач сп. Хлябіча з такім жа падарункам. Усе ж у давыбарчы час гавораць, што хочуць працаваць не для грошай, а для грамадскасці.

**Анна КАНДРАЦЮК, Нараўка**

# ГРАФІКА УЛАДЗІСЛАВА ПЕТРУКА

**— Уладзіслаў Петрук — вядомы на Падляшшы, а нават і свеце графік, беларус, верны нашым ідэалам і традыцыям. Дагэтуль у рамках праекта «Алфавіт беларускага мастацтва» мы сарганізавалі 19 экспазіцый прац беларускіх мастакоў. Уладзіслаў Петрук першы сярод іх графік. Наш герой — вопытны мастак, які раней займаўся літаграфіяй і выконваў гравюру тэхнікай сухой іголкі, дакладны дакументаліст і аўтар цікавых кампазіцый. Выканаў ён мноства графікі, якая паказвае, між іншым, Падляшша. На нашай выставе паказваем перш за ўсё выкананыя тушшу і пяром работы спадара Петрука з выявамі месцаў, распаложаных на Гайнаўшчыне, і партрэты блізкіх мастаку асоб, — заявіла Агнешка Ціханюк, працаўніца Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.**

Экспазіцыю графікі Уладзіслава Петрука адкрылі 21 снежня ў Гайнаўскім белмузеі сам яе аўтар і дырэктар музея Тамаш Ціханюк. Белмузей выдаў буклет з выбранымі рэпрадукцыямі графікі Уладзіслава Петрука, які ўвайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў», і ў прамацыйных мэтах будзе рассылаца, між іншым, па ўніверсітэцкіх асяродках Польшчы.

— Я таксама ў нейкай ступені спрычыніўся да збудавання Беларускага музея ў Гайнаўцы, бо працуючы ў «Ніве» даваў разам з іншымі працаўнікамі тыднёвіка грашовыя ўзносы на будову музея. Пасля прызабыў аб нашым музеі і калі цяпер з'явілася магчымасць арганізаваць выставу маёй графікі, я з вялікай ахвотай згадзіўся на такую прапанову, — заявіў Уладзіслаў Петрук. — Размаўляць на літаратурнай беларускай мове я навучыўся ў «Ніве», куды на работу прыняў мяне пакойны Мікола Гайдук, бо тады галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі быў у водпуску. Я ў «Ніве» выканаў многа графікі, тэмай якой былі вясковыя краявіды, прасякнуўся беларускасцю, бо я выхоўваўся ў вёсцы, дзе людзі размаўлялі ўжо ў асноўным на польскай мове. Рады, што адкрываючы выставу магу гаварыць на сваёй беларускай мове і раблю гэта ў беларускім музеі. Цешыць мяне, што мая дачка Магда прасякаецца беларускасцю і зараз прысутнічае на адкрыцці выставы. На экспазіцыі знаходзяцца перш за ўсё мае работы з Гайнаўшчыны. Калі б нейкі тутэйшы самаўрад зрабіў у мяне заказ, я мог бы выканаць графіку з выявамі турыстычных атракцыёнаў, старой архітэктуры або цікавых краявідаў у выбранай гміне, якія можна было б змясціць у турыстычным даведніку.

На выставе прац Уладзіслава Петрука ў вялікай белмузейнай зале відаць цэрквы і часоўні Гайнаўшчыны, прыгожую архітэктуру, таксама з іншых месцаў Падляшша, ды партрэты.

— Люблю я малюнкі Петрука, бо аўтар выяўляе ў іх увесь лад духа і рэчы. Кажа, што плаціць доўг асяроддзю, якое навучыла яго бачыць прыроду ва ўсёй яе красе. Спяшаецца, бо ведае, што прайграване з часам і сучаснасцю, якія бязлітасна мяняюць вясковы краявід, сціраюць з яго старыя млыны, саламяныя стрэхі, хацінкі па вокны ўціснутыя ў нішчымную зямельку. Прырода таксама мяняецца. Знікаюць акацыі, бэз, ясені, што акалялі панадворкі. Штораз менш клёнаў, высыхаюць грабы, — гэтыя словы Юзафа Макавецкага аб творчасці Уладзіслава Петрука апынуліся ў нававыдадзеным буклеце.

— Графіка спадара Петрука з даўняй архітэктурай цікавая, бо дакументуе праміна ючае будаўніцтва і цікавыя вясковыя краявіды. Спадар Уладзіслаў асабліва трапна адлюстраваў твары і выгляд старэйшых сялян, якіх штораз радзей можна зараз убачыць, — гаварыў Яўген Янчук.

Зараз рыхтуецца вялікі альбом графікі з выявамі праваслаўных храмаў у Польшчы аўтарства Уладзіслава Петрука. Выканаў ён ужо графіку з цэрквамі і часоўнямі ў Беластоцка-Гданьскай і Варшаўска-Бельскай епархіях. Шкадуецца, што няма сродкаў, каб прадоўжыць работу на захадзе і поўдні Польшчы, дакументуючы выгляд тамашніх праваслаўных цэркваў.

— Я пад вялікім уражаннем тэхнікі выканання і лоўкасці працы Уладзіслава Петрука, з-пад рукі якога выходзіць прыгожая графіка, — сказаў дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч.



Уладзіслаў Петрук (справа) і гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі

Дырэктар бюро Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук лічыць, што мастацтва, якое захоўвае ад забыцця вясковыя краявіды і сельскую архітэктуру — гэта памятка для наступных пакаленняў і ўдалая прамоцыя нашага рэгіёна. На музейнай выставе знаходзяцца таксама працы з драўляным будаўніцтвам з Белавежы, Войшак і Вулькі. Такую архітэктуру любіць фатаграфаваць гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі.

— Уладзіслаў Петрук дакументуе графікай між іншым тое, што я фатаграфую: цікавыя краявіды, драўляную архітэктуру, цэрквы. Гледзячы на яго графіку, відаць мастацкі талент, але адначасна вернае адлюстраванне рэчаіснасці, — заявіў Уладзіслаў Завадскі.

— Уладзіслаў Петрук, гэта вельмі таленавіты беларускі мастак, працы якога другі раз паказваюцца ў Гайнаўцы і першы раз у нашым музеі. Мы прэзентавалі жывапіс і разьбу. Хацелася нам паказаць іншае мастацтва — графіку — і ў гэтым адметнасць сённяшняй выставы. Спадар Уладзіслаў выконвае работы на еўрапейскім узроўні, а тэмы ягоных прац — блізкія нашаму сэрцу, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк. — Мы купляем працы мастакоў, якія работы прэзентуем на нашых выставах, набываем працы іншых творцаў. Зараз у нашай калекцыі звыш ста мастацкіх работ, у тым ліку ёсць таксама графіка Уладзіслава Петрука.

Уладзіслаў Петрук нарадзіўся ў 1952 годзе ў Наройках каля Драгічына. Мастацкую адукацыю пачаў здабываць у Ліцэі выўленчага мастацтва ў Супраслі, быў стыпендыятам Міністэрства культуры і мастацтва, у 1973-1979 гадах вучыўся ў Вышэйшай школе графікі і кніжнай графікі ў Лейпцыгу, дзе атрымаў дыплом па спецыяльнасці кніжная графіка. У тым часе ствараў плакаты, за якія атрымліваў узнагароды і вылучэнні. Пасля вярнуўся на радзіму, працаваў мастацкім рэдактарам у розных часопісах, быў кіраўніком некалькіх выдавецтваў. Выканаў сотні рысункаў, публікаваных у часопісах, дзясяткі праектаў вокладак, намаляваў ілюстрацыі да зборнікаў паэзіі і прозы. Ён — аўтар плакатаў, карыкатур, экслібрысаў і лагатыпаў. Зараз жыве і працуе ў Каралёвым Мосце на ўскраіне Кнышынскай пушчы і займаецца, між іншым, выдаваннем тэматычных зборнікаў сваіх прац.

— Гледзячы на драўляную архітэктуру на працах спадара Петрука, я ўспамінаю вёску маёй бабулі. Выявы цэркваў — гэта дакументаванне будаўніцтва з больш адлеглага мінулага, — гаварыў Адам Чурак з Гайнаўкі.

— Мастацкі варштат працы графіка Уладзіслава Петрука добры, а адлюстраванне даўняга будаўніцтва і прамінуўшых вясковых краявідаў з дапамогай пяра і тушшы, гэта дакументаванне рэчаіснасці для наступных пакаленняў, — сказаў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі.

Уладзісалў Петрук — адзін з найбуйнейшых графікаў-дакументалістаў Падляшша. Выдаў больш за паўсотні альбомаў з рысункамі архітэктуры і прыроды рэгіёна, а таксама два альбомы, у тым ліку ў 2011 годзе «Architektura, Przyroda Województwa Podlaskiego», які з'яўляецца падвядзеннем вынікаў 30-гадовай творчасці, звязанай з Падляшшам, — пішуць аўтары буклета, прымеркаванага да выставы графікі ў белмузеі. У буклеце пералічваюцца таксама краіны, у якіх у дзяржаўных і прыватных калекцыях знаходзяцца працы Уладзіслава Петрука — Польшча, Нямеччына, Бельгія, Нідэрланды, Японія, Аўстралія, Новая Зеландыя, Расія, Украіна і ЗША. У Польшчы і Нямеччыне ладзіліся шматлікія персанальныя і калектыўныя выставы графікі спадара Петрука. Яго работы паказваліся таксама на выставах у ЗША і Бельгіі. Першая выстава прац Уладзіслава Петрука ў Гайнаўцы, наладжаная Гайнаўскім домам культуры ў 1999 годзе, спадарожнічала Міжнароднаму фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Цяперашняя выстава графікі спадара Уладзіслава ў белмузеі з'яўляецца другой.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Летняю парою...

# Семяноўская чайка

Летнія фэсты, арганізаваныя Беларускім таварыствам або Беларускім музеем і цэнтрам культуры ў Гайнаўцы («І тут жывуць людзі»), вельмі чакаюцца мясцовымі жыхарамі. Збіраюцца на такіх мерапрыемствах таксама турысты, якія завітваюць у такія месцы з усёй краіны. Толькі ваяводскія ўлады, ці хутчэй падуладныя ёй фірмы, адносяцца да гэтых мясцовасцей як «закінутых», яшчэ больш аддзяляючы іх ад свету, ліквідуючы апошнія маршруты аўтобусаў не толькі ў уік-энды, хаця бяруць вялікія грошы ад прыпушчанскіх гмін на абслугоўванне апошніх з магікан. Праўда, у адну з вялікшых гмін Беласточчыны — у Нараўчанскую, а дакладна ў Семяноўку, якой 380 гадоў, што над агромністым Семяноўскім вадасховішчам, можна ўжо даехаць на аўтобусе, але ў той летні час, якраз на Панцеляймона (9 жніўня), трэба было рабіць «пятлю», заехаўшы «пэкаэсам» з Беластока ў Гайнаўку, а адтуль ужо дабірацца «Актобусам». Той лопаючы па швах аўтобусік у той дзень гудзеў ад смеху і жартаў. Гэтак яшчэ ніколі не было, заўважыў кіроўца; звычайна пасажыры моўчкі цiснуцца ў салоне. Хапіла мне, уваходзячы, сказаць шафёру: «У Сіманоўку!» — і ўсе адчулі сябе як у сябе і нікому рот не зачыняўся. Даязджаючы да Нараўкі ўжо ўсе былі гатовы, няпрошаныя, разам ісці на падвясёлак, што рыхтаваўся ў «Баярскім гасцінцы». А шмат ехала ў Семяноўку на фэст, а хто не ехаў, гучна шкадаваў і хваліў вёску, гміну, войта і самаўрад. А хто і наракаў:

— Будуць спевы, але чаму не запрасілі тутэйшых калектываў, «Нараўчанак» і «Цаглінак»? Нічога, што нядаўна ў Нараўцы зрабілі былі беларускую імпрэзу. Ліў такі дажджыска, а ніхто з гледачоў не ўцёк. І нашы выступалі, нам іх ніколі даволі!

Нічога, што не запрошаныя, бо паявіліся ў поўным складзе, хаця ў рассыпцы, і «Нараўчанкі», і «Цаглінкі». Кінуўся ў вочы пан Юрка Равінскі, які ўжыўся праз жонку ў Старое Ляўкова і цяжка было б без яго ўявіць і «Кераміку», і вёску, і «Цаглінкі», і ўсе пенсіянерскія імпрэзы, на якіх завіхаецца ён з камерай. І бачым Мікалая Варанецкага з Альхоўкі, пенсіянера-настаўніка, спевака і паэта. Бачым — я і Валянціна Мядзведзь, якіх пасадзілі побач галоўнага конкурснага століка, дзе можна выйграць шмат цікавага, прыгожага і карыснага. Мы маем свой столік, з кніжкамі. Да літаратурнага століка падсядаюць іншыя пісакі, з якіх некаторых загонім да ўдзелу ў літаратурным конкурсе пра Семяноўку. Прыгожа выводзіць на паперы свой верш Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова (акажацца пасля, што лаўрэат другога месца), алоўкам запісвае сваё натхненне Ірэна Лукша з Гайнаўкі (родам яна з Семяноўкі), а верш Мікалая Варанецкага (першае месца ў конкурсе) ужо лунае ў паветры — ягоныя словы пра «Семяноўскую чайку», як і іншыя вершы пра Ляўкова і Падляшша «Цаглінкі» ўвялі ў свой рэпертуар і расслаўляюць не толькі на Падляшшы. *Між Нарвай і Бугам жывуць беларусы, любяць тут людзі напевы свае. Дзесь там пад Нараўкай, дзесь там пад Гайнаўкай песні народныя вецер нясе!* А тая семяноўская чайка, адна з тых, што непадалёк ад месца каля былой школы-тысячагодкі, у якую хадзіла і я, носяцца над вечарэючай вадою. *Чайкі, зноў кружаць чайкі над азёрнай імглой. Зноў белакрылыя чайкі над семяноўскай вадой. Чайка, семяноўская чайка, мне памахала крылом... А я табе, белакрылая чайка, а я табе памахаю рукой. Край мой, край мой балотны, край мой, край дарагі! Шлюць табе прывітанне чайкі і рыбакі...* Як прыгожа і свойска! Так адчуваюць сябе ўсе, хто рассеўся на драўляных смалістах лаўках... Памылі мы іх раней з бібліятэкаркай Галінай Панькоўскай, каб акуратна і чыста было, бо ж сядуць людзі. Усе святочна апранутыя, бо ж гэта свята, і царкоўнае, і беларускае. Азіраліся на мяне, шчыруючай над лаўкамі, бы пазнавалі, і хіба здзіўляліся, бо нейк я не асацыявалася з анучкай і вядзерцам пад сваёй роднай школай. А зараз пасля і селі мы пры вядомай дарожцы з паэтамі за сталом. А прынялі ўдзел мы і ў конкурсе, вельмі папулярным, сарганізаваным Гмінным цэнтрам культуры ў Нараўцы і Галенай-Марыёляй Рэент, таксама тутэйшай, Карпючанкай. Пытанні-жараб'ёўка былі няцяжкія, трэба было ведаць шмат пра гісторыю Семяноўкі і яе сучаснасць. Для асоб, якія нейкі час таму раз'ехаліся з ваколіцы, пытанні пра тое хто ёсць кім у нараўчанскім самаўрадзе, маглі быць цяжкімі. «А, радная Уршуля? Гэта ж нявестка... Косціка?..» Хто сакратар Нараўчанскай гміны? Хто быў шэфам Грамадскай рады нарадовай у 1970 годзе ў Семяноўцы? Кім быў у семяноўскай школе Язэп Навіцкі? А кім — Уладзіслаў Кічко? Якую функцыю выконвае Ганна Грэсюк?» Мне ўдаецца здабыць адзін з галоўных прызоў — з гонарам накладваю на галаву шэры палатняны капялюх з матузкамі. Мо не з-за гэтага не распазнаюць мяне былыя вучні нашай школы? А, можа, пазнаюць мяне з-за прозвішча, якое стаіць на маіх кніжках, бо колькі мяне засталося з тае танклявае дзяўчынкі, што вершыкі пісала і бегала ў царкву?.. Усе мы змяніліся. Пані Генавефа Ажахоўская, наша настаўніца, жартуе, што яна проста «Чорная», Геня Леўша. Я з недаверам прытуляюся да маёй цёзкі Міркі Русаковай, маёй аднакласніцы, з якой мы разам выступалі ў скетчах на сцэне семяноўскай святліцы як «дзве Марысі». Рэня Лапінская? — узіраюся ў вочы жанчыны якой падпісваю кнігу. Ах, гэта ж Рэня Кавалёва, са старэйшага класа, якой адмысловай прычоскай я захаплялася ў дзяцінстве. Групы былых вучняў і іх гасцей гуртуюцца да здымкаў — пстрыкае іх выдатны захавальнік тутэйшай культуры і традыцыі Юрка Шыманюк. Ён жа вядзе і прыватны сайт **siemianowka.pl.** Там напісана: «Вадасховішча Семяноўка і яго наваколле, асабліва Нараўчанская гміна гэта краіна прыгажосці, міру, шчасця і някранутай прыроды, дзе час цягнецца павольна, і ўсё дзякуючы мясцовым жыхарам, а не эколагам». Юрка Шыманюк піша «Тутэйшым» па-польску: «Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз спазнала шчасце, слязу нядолі праліла...» — пісала калісьці Канстанцыя Буйло (тлустым шрыфтам паказваючы акцэнт, каб палякі ведалі як гэтыя словы гучаць). Я таксама кахаю гэтае месца, дзе я нарадзіўся і вырас, дзе я ўпершыню сустрэўся са шчасцем і праліў слязу ў цяжкі час — Семяноўку і ўсю Нараўчанскую гміну, у Гайнаўскім павеце. У Падляшскім ваяводстве. Зараз я жыву ў Беластоку. Спадзяюся, што калісьці зноў стану жыць у маёй роднай мясцовасці, распалажанай у маляўнічых і часта недаацэненых баках нашай краіны». Пры праектаванні гэтага сайта не было і няма прыбытковай мэты. Кіравала мною толькі адна мэта: даць што-небудзь для маёй «малой Радзімы», маёй бацькаўшчыны, якая мяне выхавала і ўфармавала. Гэтае даследаванне таксама крок на шляху, каб знайсці свае карані. Тэксты становяць спалучэнне навуковых абследаванняў і легенд, міфаў і аповедаў мясцовага насельніцтва. Частка аповедаў сабрана маім святой памяці бацькам, які на працягу пару дзясяткаў гадоў працаваў у гэтых баках паштальёнам». Юрка Шыманюк у ліпені 2010 года пры дапамозе Управы Нараўчанскай гміны, выкарыстоўваючы сродкі з Праграмы падтрымкі сельскіх абшараў пасля далучэння да ЕС у рамках Праграмы сацыяльнай інтэграцыі і пры фінансавай падтрымцы спонсара — Тартака Семяноўка, апублікаваў кнігу **«Piękno Ziemi Narewkowskiej. Współczesność, historia, legendy i mity».** У кнізе апынуліся тэксты, якія змяшчаюцца на гэтым сайце, але толькі з невялікай колькасцю фатаграфій. Афіцыйная прэзентацыя кнігі адбылася 1 жніўня 2010 г. у Заблотчыне, падчас святкавання «Заблоцкіх дзён — памяць, традыцыя і грамадская інтэграцыя», а 9 жніўня 2010 года была прадстаўлена ў Семяноўцы ў час народнага фэсту. Кнігі не купіце ў кнігарні. Усе асобнікі, якія меў у сваім распараджэнні аўтар, раздаваў ён на розных мерапрыемствах, у Гміннай управе таксама ўжо яе няма, што сведчыць аб зацікаўленні ёю ў грамадзе. Таксама і сёння кожны пазнае «лістонашавага Юрку», які са сваім апаратам шчыруе ды здымае і людзей, і падзею, а ягоныя найлепшыя здымкі апынуцца на сайце. Ад спевакоў, пачынаючы ад «Арт-Пронару» (міла мне пачуць словы майго верша да песні «Мой край», хаця гурт не ў свя-

працяг ☞11




## Напярэдадні каляд

28 снежня 2014 года ў вясковай святліцы ў вёсцы Чаромсе праходзіла экуменічная сустрэча. Арганізатары, а была імі фолькавая група пявунняў на чале з солтысам Яўгеніяй Кердалевіч, назвалі яе „Вечарам калядак”. Мерапрыемства было агульнадаступным для ўсіх жыхароў вёскі. Арганізатары запрасілі „Вульчанак” з Вулькі-Тэрахоўскай і групу пявунняў з Дабрывады, кіраўнікоў гміннага самаўрада ды святароў. Такія калядныя сустрэчы напярэдадні Раждаства ў Чаромхаўскай гміне праходзяць штогод пад патранатам Гміннага асяродка культуры.



Пявунні з вёскі Чаромхі

Сустрэча пачалася ў 13:00 гадзін. Солтыс Яўгенія Кердалевіч перш-наперш прывітала гасцей: войта Чаромхаўскай гміны Міхала Врублеўскага і настаяцеля Чаромхаўскага



прыхода а. Юрыя Пліса з матушкай, гурт „Гілочка” з кіраўніком Ірэнай Вішанка, затым шматлікае кола аднасяльчан. У мастацкай частцы „Гілачка” праспявала сучасныя калядкі, мясцовыя пявунні — даўнейшыя: „Трие цари”, „Нова радость стала”, „Тихая ноч над Палестиной”, „Там у полі, полі..”, „Из Востока дуже рано” ды іншыя. Пасля адбылося супольнае застолле. Быў арганізаваны шведскі стол. Грашовую падтрымку для арганізавання пачастунку прызначыла гміна. Калядныя стравы рыхтавалі мясцовыя гаспадыні. У сустрэчы ўдзельнічала каля сарака чалавек. Імпрэза праходзіла ў дружнай, сямейнай атмасферы.

**(ус)**

## Парады кардыёлага

Правільны час, калі выпіваць ваду. Вельмі важна. Пітная вада ў пэўны час максімізуе эфектыўнасць цела: ✗ 2 шклянкі вады пасля абуджэння — спрыяюць актывізацыі ўнутраных органаў ✗ 1 шклянка вады за 30 хвілін да ежы — спрыяе страваванню ✗ 1 шклянка вады, перш чым прымаць ванну — дапамагае знізіць артэрыяльны ціск ✗ 1 шклянка вады перад сном — дазваляе пазбегнуць інсульту ці сардэчнага прыступу. Калі ласка, перадайце гэта людзям, аб якіх вы клапоціцеся.

**Ясюк СТРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мае поспехі — таксама поспехі маіх сяброў

**Інтэрв'ю з Наталляй Васько — вучаніцай II класа гімназіі ў Нараўцы, лаўрэаткай першага месца ў конкурсе «Дэбют».**

**„Зорка":** — *Наталька, Ты чарговы раз нас здзівіла. У час апошніх Сустрэч «Зоркі», Ты атрымала званне найлепшай журналісткі і галоўную ўзнагароду за малюнкі. Зараз Ты — першая лаўрэатка ў Агульнапольскім беларускім літаратурным конкурсе «Дэбют». Калі з'явілася ў Цябе патрэба пісаць вершы?*

**Наталля Васько:** — Вершы пішу кожны дзень. Я стараюся пераліць на паперу свае думкі, пачуцці, мары. Проста, мая бабуля калісьці пісала вершы і я падумала: «Можа і я паспрабую». Узнагарода ў конкурсе для мяне важная, я цяпер больш упэўненая, што магу пісаць вершы.

**З:** — *Я прачытала Твае конкурсныя творы. Гэта жывы і мудры голас Твайго пакалення. Там найважнейшыя сяброўства і вернасць другой асобе.*

**Н. В.:** — Так, чалавек дарастае і думае пра іншыя справы, чым забава. У адным вершы я кіравалася пачуццём прыязнасці. Гэта ўжо другі верш, напісаны для гэтай асобы. Пішу пра тое, што прыходзіць у галаву. Гэта такая *вена* (натхненне). І яна, гэтая *вена*, падымае настрой не толькі ў час пісання. Яна дапамагае ў спорце, або калі прыбіраеш пакой. Важна, каб яна, гэтая *вена*, была, бо тады жыццё больш цікавае, каляровае.

**З:** — *Ці сярод Тваіх аднакласнікаў ёсць месца для сапраўднага, шчырага сяброўства?*

**Н. В.:** — З гэтым бывае па-рознаму. Я сама раз ужо расчаравалася ў тым, што здавалася мне сапраўдным, а не было сапраўдным. Я ведаю, што цяпер ёсць інакш, што мы будзем сябраваць да канца жыцця.

**З:** — *Гэтае знаёмства, як памятаю, завязалася на Сустрэчах «Зоркі»?*

**Н.В.:** — Так, мы сябруем з Юлітай ужо трэці год.

**З:** — *Вы жывяце ў розных месцах і ходзіце ў розныя школы. Ці часам сустракаецеся ў жыцці па-за «Сустрэчамі» і фейсбукам?*

**Н.В.:** — Зараз многа навукі, конкурсаў, так што сабе тэлефануем, або пішам на фейсбуку. А калі канікулы, мы вельмі часта сустракаемся. Я езджу ў Міхалова, дзе жыве Юліта, на ўсякія мерапрыемствы, яна прыязджае да мяне ў Нараўку.

**З:** — *Наталька, скажы як успрымаюць Твае артыкулы ў «Зорцы» сябры па парце?*

**Н.В.:** — Думаю, што яны цешацца, бо мае поспехі — гэта таксама поспехі маіх сяброў. Калі апошнім часам да мяне прыязджала журналістка з Радыё Беласток пагаварыць пра вуліцу Уладзіміра Гайдука, яны былі вельмі ажыўлены, пасля пыталі пра паэта, пра тое як нарадзілася ідэя і што з гэтага атрымаецца. Настаўніца таксам спытала пра мае адказы. Гэта было вельмі прыемна.

**З:** — *Твае аднагодкі размаўляюць папольску. Ці ім падабаецца, калі Ты выступаеш з прапановамі па-беларуску?*

**Н.В.:** — Беларуская мова — гэта мая родная мова. У хаце мы размаўляем пабеларуску. Можна сказаць, што я ўжо думаю па-беларуску, нават з сяброўкай на перапынку стараюся так гаварыць. Яна, хоць адказвае мне па-польску, хоча таксама добра гаварыць і думаць па-беларуску. Нам гэта патрэбна, каб быць сабой.

**З:** — *Ад сябе дадам, што вучні з Нараўкі ад некалькіх гадоў мяне захапляюць.*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

---

Наталля ВАСЬКО
Гімназія ў Нараўцы

## Частка цябе

Ведаю, што нейкая частка цябе
увесь час думае пра мяне,
а калі не сплю ноччу,
гэта ўсё яе віна.

Ведаю, што нейкая частка цябе
заўсёды ёсць каля мяне,
глядзіць на мяне
і накрывае сваім плячом.

Ведаю, што нейкая частка цябе
ходзіць за мною ўдзень і ўночы,
шукае і стае перада мною
каб заўсёды я была
ў адным кавалачку.

Ведаю, што нейкая частка цябе
хаваецца ў маёй галаве,
пільнуе маіх думак,
рухае мною як марыянеткай.

Ведаю, што нейкая частка цябе
хацела б быць цэлаю,
калі б не была разбітая,
калі б была пазбіраная.

Ведаю, што нейкая частка цябе
увесь час жыве,
хаця не можа быць цэлаю,
бо яе ўжо няма.

Ведаю, што нейкая частка цябе
Увесь час астаецца часткаю,
якой не ўдаецца знайсці рэшты,
рэшты схаванай пад зямлёю.

Ведаю, што нейкая частка цябе
Ёсць са мною, калі сюды прыходжу,
калі на гэтай зямлі
стаўлю святло надзеі.

Ведаю, што нейкая частка цябе
плача гледзячы на гэтае святло
і моліцца да Бога і ўмаляе,
каб гэта зноў не была лампадка на магіле.

Ведаю, што нейкая частка цябе
не можа зразумець,
што рэшты ўжо няма,
што проста... ужо памерла.

---

## Загадкі з роднай хаткі

# Увага, конкурс!!! (№ 2-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 18 студзеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Ляцяць птушкі
без крыл,
а садзяцца
без ног.
С.......

**2.**
Ён без фарбаў, без алоўка
На акне малюе лоўка
лапкі елак, пальмаў вецце.
Як жа той мастак завецца?
М....

**3.**
Гэты хадулі
па нітачцы ходзяць,
узоры выводзяць,
Лічаць вочкі і радкі
называюцца...
П.....

(Н. А. Сторажава)

**Адказ на загадкі № 50-14: грыб, сняжынкі, елка.**

Узнагароды, запісныя кніжкі з беларускімі закладкамі, выйгралі Юлька Шкляжэўская, Міхась Тапалянскі, Клаўдзія Ніканюк з Нарвы, Вераніка Жох, Габрыела Карбоўская з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

# Калядаванне ў Залуках

Хаця надвор'е не спрыяе святочнаму настрою, вучні з Пачатковай непублічнай школы ў Залуках паклапаціліся, каб адчуць надыход Калядаў. Аплаткавая сустрэча і яслі прыцягнулі ў школу не толькі бацькоў, але таксама выпускнікоў, вяскоўцаў ды ўлады Гарадоцкай гміны. Усе з захапленнем прыглядаліся дзіцячым выступам.

У першай частцы пастаноўкі дзеці паказалі, што адбывалася на зямлі, калі нарадзіўся Ісус Хрыстос. Была маленькая батлейка, Марыя і Юзаф. Не магло не быць таксама жывёлак, за якія пераапрануліся дзеці, трох каралёў і хітрага д'ябла, які вось-вось папсаваў бы цэлую радасць. Але гэта толькі пачатак каляднай гісторыі, расказанай дзецьмі з Залук. Хлопчык, які сядзеў каля мяне, толькі заціраў рукі і казаў, што „зараз будзе найлепшае!". Гэтым „найлепшым", як аказалася, была другая частка артыстычных выступаў — беларускамоўная пастаноўка. Ужо, як адзначылі малыя акцёры, на рэпетыцыях іншыя падглядалі іх, не могучы стрымаць смеху. Сапраўды, з залы цэлы час было чуваць шчырае рагатанне.





— Мы не мелі многа часу на падрыхтоўку, — кажа Бартэк-Гаспадар, — але кожны добра вывучыў сваю ролю і добра таксама гуляў на сцэне.

Але не забываючы пра гэта, што ўсё-такі пастаноўка праходзіла ў школе, у якой вучацца цікавыя свету дзеткі, беларускамоўны спектакль адначасова вучыў як калядным традыцыям на нашых вёсках. Таму кожны мог пабачыць на сцэне Казу-Дыяну, Гаспадара-Бартка, Каня-Натальку і падрыхтаваных на марозныя вечары калядніка́ў у цёплых кажухах, перавязаных дзяжкай.

Увогуле, вучні з Залук вельмі сур'ёзна падышлі да выступаў і сваіх роляў. Нават калі ўжо можна было аддыхнуць пасля спектакля, хлопчыку, які быў адным з трох каралёў, сябры з асцярожнасцю, вартай каралеўскай годнасці, папраўлялі чырвоны плашч, каб той не скамячыўся.

Вучні на канец праспявалі беларускую калядку, якую пад носам напявалі ўсе. Малыя акцёры атрымалі віншаванні і падарункі за цудоўныя яслі ад самога войта Гарадоцкай гміны Веслава Кулешы. А цэлая зала апладзіравала, не шкадуючы далоняў!

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Вершы Віктара Шведа

## Які мой бацька?

— А мой бацька наяву<br>
Вышэй тваіго на галаву,<br>
А да таго, як беларус,<br>
Мае пакручасты вус.

— А ў майго наадварот —<br>
Такі аграмадны жывот<br>
І доўгі незвычайна нос<br>
І галава ўжо без валос.

## Знаходлівасці прыклад

— Знаходлівасці, дзеці,<br>
Трэба навучыцца:<br>
Хто раз апячэцца —<br>
Ён агню баіцца.

— Прывядзі, Каміля,<br>
Прыклад нам мадэ:<br>
— Каго раз памылі —<br>
Баіцца ён вады.

## Ці гэта праўда?

— Дарагая матуля,<br>
Запытала Івонка, —<br>
Ці нашая бабуля<br>
Гэта дзедава жонка?

— Гэта праўда, дачуся,<br>
А чаму ж ты пытаеш?<br>
— Ажаніцца ён мусеў?<br>
Яна ж надта старая.

## Парада бацькі

— Якім вуліцы бокам,<br>
У нашым Беластоку<br>
Павінен мужчына<br>
Весці жанчыну?

— Трэба весці бокам,<br>
Што прыкмеціць вока,<br>
Дзе няма вітрынаў —<br>
Раіць бацька сыну.

# ГАРАЧЫЯ САНІ

## (мардоўская казка)

Аднойчы зімой ехаў дзед санкамі. На двары стаяў люты мароз. Ехаў, ехаў, кабылка стамілася. А дарога вяла пад гару. Дзед паганяе кабылку і сам схапіў аглоблю, дапамагае, цягне разам з канём. Стаміўся стары, упацеў. Зняў ёй кажух і рукавіцы. Пасля дарога пайшла згары ўніз. Сеў дзед у сані і едзе.

А ззаду на тройцы імчыць памешчык, ахутаны ў цёплае футра з лісіных шкур. Сядзіць ён на сваіх санках і лае фурмана:

— Хутчэй! Хутчэй!

Дагналі яны старога.

— Дзед, а чаму ты такі раздзеты, — пытае пан, — на двары такі мароз, а ты такі распалены?

На гэта дзед кажа:

— У мяне, пан, гарачыя сані. Бачыш, я зняў кажух і рукавіцы, так мне горача, так мне добра.

Захацелася памешчыку, каб і ў яго былі гарачыя сані. Ён падумаў і кажа:

— Давайце, памяняемся санямі!

— Не ведаю, што мене рабіць, — кажа дзед. — Мае сані вельмі гарачыя, шкада іх страціць.

А памешчык яму на гэта:

— Ты, дзед, сабе новыя зробіш, яшчэ больш гарачыя за гэтыя.

— Добра, — кажа стары, — дам табе сані, аднак з той умовай, што возьмеш іх разам з кабылкай. Я аддам табе каня, а ты мне сваю тройку.

Усцешыўся памешчык. Аддаў тройку і сані дзеду. Яшчэ і лісінае футра далажыў — навошта яно яму, калі сані такія гарачыя.

Надзеў на сябе футра дзед, сеў у сані запрэжаныя ў тры кані і памчаў праз горы-даліны. А пан сеў у сані старога, зняў з галавы шапку і чакае аж упацее. Чакаў, чакаў — не дачакаўся, толькі яшчэ больш змёрз. Сядзеў, сядзеў аж пасінеў ад холаду. Крычыць ён свайму фурману:

— Гані, дурню, хутчэй каня! Я замерз ад гэтых гарачых саней!

Паганяе коніка фурман, а кабылка ледзь-ледзь ногі валачэ. Крычыць фурман, бічом сцябае. Рукі здранцвелі ды ён сам больш за таго дзеда ўпацеў. А памешчык акасцянеў ад марозу. Бачыць — нічога не будзе. Злез пан з саней і нагамі пашыбаваў дахаты.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 02

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50:** Час, кума, неба, гаманец, лад, чарапаха, ода, ой, камета, арт. Чалавек, нага, сем, рот, балада, канапа, яда, моц, хор, сайт.

Узнагароды, кніжкі беларускіх і шведскіх аўтараў (на беларускай мове), выйгралі **Габрыела Карбоўская, Агнешка Саўчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Оля Пугацэвіч, Сара Скаўронская, Мікола Абрамюк** з Беластока, **Магда Пташынская** з Нараўкі, **Юлька Шкляжэўская, Ігар Кардаш, Міхась Тапалянскі** з Нарвы, **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Wzrok | Efekt | | Syn / Czar | Herbata | |
| Chiny | | Gra | Zwyczaj | Żłobek | | | | | | |
| | | Pierzyna | | | | | | | Anyż | |
| Ar | | Zapach | Sen / Ala | | | | Niewolnik | | | |
| Waga | Gorący | | | | | | Lit | La | | |
| Ucho | | | | | | | Mat | | | |
| | | | | | Mi | Mięso | | | | |
| Kabalistyka | | Kożuch | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | |

У 2014/2015 навучальным годзе XXI Алімпіяда беларускай мовы для вучняў сярэдніх школ у Польшчы будзе прысвечана асобе Ларысы Геніюш. Увазе маладых людзей прапануем адмысловы артыкул прафесара Аляксандра Баршчэўскага, прысвечаны выдатнай беларусцы і паэтэсе.

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ



Ларыса Геніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч) жыла ў 1910-1983 гадах. Большасць яе жыцця прыпала на чужыя краіны. У час Першай сусветнай вайны знаходзілася яна з бацькамі ў бежанстве і толькі ў 1919 годзе вярнулася на радзіму. У міжваенны перыяд закончыла польскую гімназію ў Ваўкавыску. Знаходжанне ў гэтай школе давала ёй магчымасць безупыннага кантакту з роднай зямлёй, бо паходзіла яна з Ваўкавыскага раёна.

У 1935 годзе пабралася шлюбам са студэнтам-медыкам Янкам Геніюшам, які навучаўся ў Карлавым універсітэце ў Празе. У 1937 годзе, пасля нараджэння сына Юркі, выехала да мужа ў чэшскую Прагу, дзе пражыла 11 гадоў.

Амаль што з першых дзён знаходжання ў Чэхаславакіі ўключылася яна ў беларускае эміграцыйнае жыццё. Прымала актыўны ўдзел у жыцці беларускага студэнцкага зямляцтва, хаця сама не была студэнткай. У студэнцкае асяроддзе ўвёў яе муж — таксама як і яна — свядомы беларус, які паходзіў з мястэчка Зэльва. Стыхійнасць студэнцкага асяроддзя адпавядала яе настроям і характару. Трэба сказаць, што канец 30-х гадоў XX ст. значна адрозніваўся ад 20-х гадоў, калі бальшавіцкая прапаганда, выкарыстоўваючы ідэі беларусізацыі, змагла перацягнуць многіх беларускіх эмігрантаў у Чэхаславакіі на свой бок. Напрыканцы 30-х гадоў, па сутнасці, ужо ніхто не меў сумненняў, што савецкая сістэма мае злачынны характар. Беларускія эмігранты ў Чэхаславакіі добра ведалі пра трагічны лёс Ігната Дварчаніна і Уладзіміра Жылкі, зваблeных у БССР, арыштаваных, сасланых і замучаных. Нягледзячы на ўсе хітрыкі савецкай прапаганды, Ларыса і яе муж добра разумелі, што савецкая і камуністычная ідэалогіі несумяшчальныя з беларускім нацыянальным інтарэсам. І таму, дзейнічаючы сярод студэнтаў, рабілі яны ўсё ў тым напрамку, каб страшэнная праўда пра беларускую нядолю пад саветамі дайшла да кожнага беларускага сэрца на эміграцыі.

Ларыса Геніюш цікавілася не толькі студэнтамі, але і беларускімі палітычнымі эмігрантамі. Трэба ведаць, што ў тым часе ў чэшскай Празе знаходзілася сядзіба Беларускай Народнай Рэспублікі. Жылі там беларускія дзеячы старэйшага пакалення, якія рыхтавалі славуты Першы агульнабеларускі з'езд у Мінску ў канцы 1917 года ды ў сакавіку 1918 года стварылі Беларускую Народную Рэспубліку. Зразумела, што большасць гэтых дзеячаў, кіруючыся прынцыпам вернасці сваім ідэалам і ведаючы пра сталінскія злачынствы, цвёрда стаяла на грунце беларускай незалежнасці. Ларыса Геніюш мусіла гэтых людзей пераканаць сваёй паслядоўнасцю і нацыянальнай палкасцю, калі згадзілся яны прызначыць яе на пасаду сакратара БНР. Займалася яна захаваннем і ўпарадкаваннем архіва БНР.



У апошні шлях паэтку праводзіла ўся Зэльва

Менавіта падчас знаходжання Ларысы Геніюш у Чэхаславакіі рос яе паэтычны талент. Пісала яна ў гэты час многа і цікава. Няма сумненняў, што пачынаючая паэтка ведала першы зборнік Наталлі Арсенневай *Пад сінім небам*, які выйшаў у 1927 годзе. На карысць гэтай тэзы прамаўляе тое, што ў ранняй паэзіі Ларысы Геніюш нямала было матываў паралельных да творчасці Наталлі Арсенневай.

Другая сусветная вайна і акупацыя Гітлерам як Чэхаславакіі, так і Беларусі, увялі ў душу Ларысы Геніюш нямала не толькі трывогі ды жаху, але і свайго роду надзеі. Паэтка наіўна верыла, што, мабыць, пры немцах удасца нешта выратаваць для роднай Беларусі. Акупацыйная рэчаіснасць мела для Ларысы Геніюш прынамсі адзін пазітыўны аспект. У 1942 годзе ўдалося ёй выдаць даволі аб'ёмісты першы зборнік вершаў пад загалоўкам *Ад родных ніў*. Назва кнігі сведчыць пра тое, што аўтарка аддавала дань павагі свайму паэтычнаму настаўніку — Максіму Багдановічу. Як славутыя слуцкія ткачыхі, у чужой краіне ткала яна з каляровых слоў і сноў кілім вернасці сваёй няшчаснай краіне — Беларусі.

З 1945 года савецкія ўлады дамагаліся экстрадыцыі Геніюшаў, ставячы ім у віну «антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць» падчас вайны. Пад канец 1947 года Ларыса Геніюш перабралася з мужам з Прагі ў Вімперк, дзе 5 сакавіка 1948 года іх арыштавалі, а тыдзень пазней перадалі савецкім уладам. Утрымліваліся яны ў савецкіх турмах Вены і Львова, а з канца 1948 года ў турме ў Мінску. У лютым 1949 года Вярхоўны суд БССР прысудзіў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў зняволення ў лагерах. Пакаранне Ларыса адбывала ў лагерах Комі і Мардовіі. Вядомыя палітычныя перамены 1956 года ў Савецкім Саюзе прычыніліся да таго, што разам з мужам былі яны часткова рэабілітаваныя, тэрмін пакарання зменшаны да 8 гадоў, якія ўжо прайшлі з моманту прысуду.

Пасля вызвалення Ларыса Геніюш пасялілася на радзіме мужа ў Зэльве. Усё астатняе жыццё Геніюшы пражылі з адзнакай у пашпарце «без грамадзянства». 27 гадоў зэльвенскага жыцця паэткі прайшлі пад наглядам КДБ. Савецкай сістэме не ўдалося аднак кінуць пісьменніцу на калені. Да канца жыцця не прыняла яна савецкага грамадзянства. Памерла ў 1983 годзе. Пахаваная ў Зэльве.

Дом Геніюшаў у Зэльве быў прыцягальным асяродкам для творчай моладзі Беларусі. Нягледзячы на нагляд КДБ, частымі гасцямі ў Зэльве бывалі паэты і пісьменнікі, мастакі, навукоўцы.

У Савецкай Беларусі творчасць паэткі амаль дзесяць гадоў была пад забаронай. Упершыню яе паслялагерныя вершы трапілі на старонкі беларускіх часопісаў у 1963 годзе. Толькі ў 1967 годзе быў выдадзены першы ў Беларусі зборнік твораў Ларысы Геніюш *Невадам з Нёмана*, у які ўвайшла большасць вершаў са зборніка *Ад родных ніў*, а таксама вершы зэльвенскага перыяду. Ларысе Геніюш пашчасціла выдаць некалькі паэтычных кніжак: *Невадам з Нёмана*, *На чабары настоенае* ды твораў для дзяцей *Казкі для Міхаські* і *Добрай раніцы, Алесь*. У першым пасмяротным зборніку *Белы сон* даслоўна паўтораныя ўсе чатыры кнігі, што выйшлі за савецкім часам, а да іх дададзены раздзелы: *Вершы розных гадоў*, *З пасмяротных публікацый* і *З рукапіснай спадчыны*.

У 1940 годзе паэтка пісала:

*Маю душу ў спакої пакінь,*
*дум крылатых ня стаў на калені,*
*нат вачэй паднямонская сінь*
*пацямнела ў адчаі цярпеньняў.*
*Не скрываю няспутаных дум,*
*узіраюся сьмела і проста,*
*сваёй сьцежкай наперад іду —*
*Юдаў твар для мяне не сяброўства.*
*Мо замала вам грошай далі?*
*Што-ж, прадаць вам другіх давядзецца.*
*Прыйдзе час, і на нашай зямлі*
*на пакутнай ня будзе вам месца.*

Ларыса Геніюш публікавала свае вершы на старонках беларускай эміграцыйнай газеты „Раніца” (Берлін 1939-1945), якая даволі значнае месца адводзіла беларускім паэтычным тэкстам. Вялікая колькасць беларускіх аўтараў ваеннага часу змяшчала свае вершы на старонках „Раніцы” пад рознымі псеўданімамі, часта незразумелымі па сённяшні дзень. З'яву гэтую можам тлумачыць як праяву боязі паэтаў, якія не хацелі выяўляць сваіх прозвішчаў. Разумелі яны, што супрацоўніцтва з прагітлераўскай „Раніцай” не толькі не прынясе ім славы, але можа стаць прычынай розных прыкрасцей, а нават смерці. Сярод вядомых і даволі ўжо ў той час плённых паэтаў, якія не праяўлялі такой боязі, трэба назваць Наталлю Арсенневу, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва і Ларысу Геніюш. Змяшчалі яны свае вершы ў „Раніцы”, падпісваючы іх поўнымі прозвішчамі ды імёнамі.

„Раніца” бадай што найчасцей адклікалася да вершаў Ларысы Геніюш. Аднак нельга на гэтай падставе вінаваціць Ларысу Геніюш у салідарнасці ці супрацоўніцтве з гітлерызмам. Справа ў тым, што амаль усе вершы Ларысы Геніюш, якія друкаваліся „Раніцай”, не мелі ў сваім змесце палітычных элементаў і не было ў іх праяваў падтрымкі гітлераўскай Германіі ці захаплення постацю фюрэра або эйфарыі з перамогі Вермахта на ўсходнім фронце. Як паэтка, Ларыса Геніюш не захліствалася перамогамі Гітлера, але заставалася поўнасцю ў палоне патрыятычных і пейзажных настрояў. З гэтага можна зрабіць выснову, што яна не вельмі верыла ў поўны яго трыумф і пананаванне над светам. Практычна, амаль усе вершы Ларысы Геніюш патрыятычна-прыродаапісальнага характару. З гэтага вынікае, што паэтка, змяшчаючы свае творы ў „Раніцы”, трактавала гэта як форму папулярызацыі Беларусі, а гаворачы больш дакладна, як форму ўсхвалення красы роднай зямлі. У вершах Ларысы Геніюш дамінавала ціхае задуменне над даўно пакінутым краем, над родным пейзажам, які безупынна вабіў яе сэрца. Прыкладам, які яскрава аб гэтым сведчыць, можа быць верш *Над Зэльвянкай*, змешчаны ў „Раніцы” ад 15 жніўня 1943 года.

*Стаю адна, а прада мной ірдзіцца,*
*сінее поясам вузенькая рака...*
*Прышла сюды я раньнем на граніцу*
*з другога боку птушак сустракаць.*
*Вось вылятуць яны з зялёных хвояў,*
*і паплывуць у сіні нада мною,*
*ня знаючы ні межаў, ні граніц.*
*Вось вылятуць... ушыр і ўздоўж па краю,*
*дзе толькі кліча рэха братніх мук.*
*Іх вольны лёт нішто не затрымае —*
*ні сінь Дняпра, ні быстраводны Буг.*
*Ня ўбачу больш, як сонца тут устане*
*і ў сініх хвалях голаў акуне...*
*Не заірдзіцца ў кустох ружова раньне*
*і толькі ў чужыне прысьніцца мне.*
*Як гляну я на стрэхі родных вёсак,*
*што ў лугох, як птушак чарада...*
*Мне гэтак цяжка родныя палоскі*
*і край свой любы сяньня пакідаць...*
*Калі цягнік жалезам зарагоча*
*і панясе ў далёкі, гулкі вір,*
*імглою смутак упадзе на вочы,*
*упадзе мой стогн на прыдарожны жвір...*

У першыя пасляваенныя гады, астаючыся надалей у Чэхаславакіі, у якой ужо не было месца для беларускага эміграцыйнага руху, Ларыса Геніюш супрацоўнічала з беларускім эміграцыйным часопісам „Шыпшына” (Трызонія, 1946-1948), у якім істотную ролю адыгрывала Наталля Арсеннева.

Характарыстыцы пакутніцкага лёсу паэткі Ларысы Геніюш многа ўвагі прысвяціў беларускі эміграцыйны часопіс „Моладзь” (Парыж 1948-1954). У 12 нумары „Моладзі” быў апублікаваны ананімны артыкул пад назвай *Вялікая страта*. Аўтар публікацыі, не падаючы, на жаль, ніякіх пераканаўчых фактаў і доказаў, абвінаваціў прыхільнікаў Радаслава Астроўскага (прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады — беларускага ўрада пад нямецкай адміністрацыяй у 1943-1944 гадах) у тым, што яны прычыніліся да арышту Ларысы Геніюш савецкімі агентамі на тэрыторыі чужой дзяржавы — Чэхаславакіі.

Артыкул *Вялікая страта* паявіўся ў 1949 годзе, г.зн. год пасля арышту Ларысы Геніюш і прысуду яе да 25-гадовай ссылкі. Для ўсіх ведаючых бліжэй Ларысу Геніюш асабіста (яе стойкі характар, з аднаго боку, і яе слабое здароўе — з другога) факт ссылкі ў бальшавіцкія канцэнтрацыйныя лагеры быў раўназначны яе фізічнай смерці. Паэтка аднак выжыла.

Постаць Ларысы Геніюш паўстае перад беларусамі не толькі як таленавітая жанчына, але і змагарка за нацыянальна-вызвольную ідэю. Яна застаецца ўзорам крыштальнасці, узорам адважнай ахвярнасці — гераізму.

**Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ**

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

— Пойдзем на прэзентацыю, — заявіла жонка голасам, не прадбачваючым ніякай апеляцыі ад яе пастановы.

— А што там будуць паказваць — зноў нейкія гаршкі? — прабаваў я ўсё ж такі выкрунуцца ад наспяваўшай рэвалюцыі, якая мела вывернуць дагары нагамі застыўшую ўжо ў маіх шэрых звілінах кальку, паводле якой усе прэзентаваньня ў нашу нядаўна наступіўшую эпоху цуды з'яўляюцца адно толькі тым хітрым яблыкам, якім усялякія сучасныя змеі намагаюцца спакушаць быццам смяротных, але ўсё неўміручых Еваў і Адамаў на выгнанне з нейкага ўтульненькага раю.

— Пойдзем і толькі, мусім. Адзінокім удзельнікам прэзентацыі дадуць там па тэнсометры, а калі прыйдуць пары, тады кожны з пары атрымае па блузе з флісу (polar), — абнародавала свой козыр жонка.

На такі віст адказаў я маўклівым пасам, а маўчанне, як у нашым звычаі вядома, гэта знак згоды. Бо ж, праўду кажучы, у той даўні час, калі яшчэ не думалася пра залаты юбілей з медалямі ад прэзідэнта, калі жонкі фігурка была ў агульным абрысе падобная на асу, я сам асабіста прыносіў ёй нейкія тэкстыльныя сюрпрызы. Але з ходам часу, калі з жончынай вытанчанай асінай фігуркі стала паступова аставацца толькі вытанчанае джала, калі тройка яе асноўных кругласцей стала мяняць свае каардынаты ў бок іх буйнеючай эгалітарнасці, калі не ўспяваў я з фіксаваннем іх пастаянных змен, стаў я ўсё больш разводзіць рукі і тая сюрпрызная жарсць стала ў мяне чахнуць; дарэчы, як і ўсе іншыя біхевіяральныя агенькі. Праўда, я яшчэ спрабаваў пасеяць сумненне, што невядома якога памеру трапяцца нам тыя флісавыя блузы: мо будуць на малодшую ўнучку або на старэйшую цётку, але гэта не пагасіла запалу жонкі. Дарэчы — кожнаму паводле патрэбнасцей, ад кожнага паводле магчымасцей — прыгадаў я колішні лозунг, на які тады мая душа гарэла яркім полымем. А колькі ж ад мяне патрабуецца — адно схадзіць на нейкую прэзентацыю і пасядзець там гадзінкудзве. Ды яшчэ ж не трэба хвалявацца, ці гэта выраб фірмы „Voddy&Boddy" ці брэнду „Max&Mex"; важнае, каб быў ён з тэрманепранікальнага матэрыялу, каб цёпленька было...

На прэзентацыю ў гатэль „Пад дуплявым зубом" з'явілася мо каля трыццаці асоб, у рашучай большасці пенсійнага ўзросту, часткова сінглы, часткова пары, якім таксама захацелася пагрэцца ў блузе з далікатнага флісу або хаця атрымаць прыбор для вымярэння гарэзлівага ў залатаюбілейную пару ціску крыві. На паказным стале, як і трэба было спадзявацца, стаялі кухонныя пасудзіны. На сам пачатак вядучы прэзентацыю маладзён пазабіраў ад усіх каляровыя агульныя запрашэнні, у якіх абяцаліся і тэнсометры, і флісы. А пасля раздаў картачкі памерам з палову сшыткавай старонкі і папрасіў запісаць прозвішчы ўдзельнікаў. Далей прэзентаваліся цуды, якіх здзяйсненне магчымае было толькі ў прэзентаваных пасудзінах. Адзін рондаль меў такую ўласнасць, што выкіпелае і зганэлае малако не прыліпала ў ім да дна і сценак, не трэба было яго шараваць. Сапраўды, пасля прыгарвання вядучы наліў у рондаль ваду і той нагар выплыў быццам пена ад прыбоя. Другі фокус давала патэльня, у якой з загадзя прыгатаванай рошчыны за паўгадзіны атрымаўся пухкі пернік. У скараварцы больш-менш за падобны час зварыўся расол з курынай грудзінкі. Чарговы цуд здзейсніў кухонны камбайн, у які вядучыя ўлілі смятану з крамы і за непрацяглы час атрымалася з яе масла. Затым вядучы падагрэў цікавасць прысутных аповедам пра цудоўныя магчымасці прапанаванай кухоннай тэхнікі і аб'явіў цэны некаторых флагманскіх прапаноў, адзначаючы, што тыя, якія купяць цудоўныя вырабы адразу, заплацяць за іх адно палову цаны, а гэта ж абазначала вялікую ашчаднасць. Па колькі тысяч залатовак тыя цуды прапанаваліся, я нават не звяртаў увагі, ведаючы, што яны вельмі атракцыйныя прадаючым, але не сабранай аўдыторыі. Яшчэ прысутныя атрымалі па невялікай колькасці толькі што атрыманых смакоцця: перніка, хлеба з маслам і спецыямі ды па кубачку расолу; курыная грудзінка не была прадбачана для пачастунку запрошаных.




Пасля засеву цікавасці пачалося жніво, а дакладней — выкліканне паводле напісаных картачак ахвотных да г.зв. кансультантаў. Частка аўдыторыі аказалася зусім не зацікаўленая пасудзістай прапановай, але пяць, здаецца, заказаў на цудоўную кухонную тэхніку ўдалося арганізатарам сабраць ад прысутных. Як выглядаў той набор — не ведаю, бо я пагарачыўся, адразу заяўляючы кансультанту, што ніводзін з паказаных цудаў мяне не цікавіць; магчыма, што калі б нейкага гаршка ці патэльні, падобных на прапанаваныя, не было ў маёй кухні, дык і пра нейкі інтарэс можна было б пагаварыць. Дарэчы, жонка ўжо раней пранюхала, чым пахнуць тыя цудоўныя маслабойкі ці прыгаральнікі малака і яе цікавасць да іх рэзка ўпала і яна настойвала, каб пакінуць мерапрыемства. Аднак у прыродзе, паводле тае прыроды законаў, нішто не прападае, таму ейны ранейшы энтузіязм да флісавай вопраткі перайшоў на мяне і я рашыў не здаваць дарам патрачанага часу. Перапытаўшы ўсіх удзельнікаў паказу яго арганізатары яшчэ наладзілі збор невялічкіх грошай сабе — па два злоты; ахвяравала каля пяці асоб. І вось сярод гэтых дабрачынцаў былі разыграны ўзнагароды — той жа сам посуд, таксама за палову цаны, але з дадатковымі прэміямі: талонамі вартасцю ў паўтары тысячы злотаў, якія гарантавалася атаварыць прапановамі ў ходзе наступнай прэзентацыі. Жараб'ёўка ўзнагароджаных была даволі нескладанай — вядучы падабраў галоўную ўзнагароду той пары, якая раней падпісала дамову на куплю найдаражэйшай прапановы — кухоннага камбайна. Жанчына, павабная бландзінка, вельмі ўзрадавалася чарговаму поспеху, затое мужчына скрывіўся быццам серада на пятніцу. Ды што ж парадзіць — за жыцёвы поспех трэба расплачвацца; каліськазісь выйграў ён спаборніцтва стаць ёй падкаблучным, а пазней настаў час ейных безагаворачных капрызаў.

Чаму я кінуўся ўбок, здавалася б зусім не да справы, сямейных дачыненняў? Бо ж з гаршкамі справы выглядаюць у агульнасці даволі падобна як з людзьмі. Некаторыя каструлі, як вабныя бландзінкі, важна ўпрыгожваюць надзённы быт, займаючы відное месца ў кухоннай экспазіцыі. Іншыя ж гаршкі нястомна працуюць то ў пякельным кухонным агні, ушмараваныя сажай у традыцыйных печах ці плітах, то зноў зябнуць у райскім халадку халадзільніка. Падобны ж лёс і традыцыйных кухарак. Ды і сама прэзентацыя вельмі ж падобная на сваты, дзе некаторыя здзелкі завяршаюцца хэпі-эндам між каструлямі і заваражонымі імі гледачамі. І далейшы лёс такіх здзелак здаецца быць вельмі падобным на жыццёвыя здзелкі, пасля якіх першапачатковы гарачы энтузіязм паступова стыне аж да стану яўнай антыпатыі. У прынцыпе ахвотныя купляюць кулінарную апаратуру ў растэрміноўку, падпісваючы даўгачасныя абавязацельствы — рыхтык як у загсе...

Пара, аднак, вяртацца да самой прэзентацыі і да прынаднага флісу. Пасля падпісання ахвотнымі ўсіх іхніх здзелак надышоў момант выдачы абяцанай прынады. Дзеля гэтага аўдыторыя была запрошана навонкі гатэля. Церушыў зябкі ні то дождж, ні то снег. Арганізатары вывалаклі на тратуар перад гатэлем дзве вялікія кардонкі з прэміямі. Але не было ў іх ні флісавых блуз, ні тэнсометраў. У абедзвюх кардонках былі невялікія каробачкі — па адной для кожнага ўдзельніка. Атрымальнікі забіралі свае здабычы і паспешна ўцякалі ад непагоды ў бок сваіх кватэр. Здаецца, ніхто не заяўляў рэкламацыі на нязгоднасць атрыманага з абяцаным, бо ж папяровыя абяцанкі арганізатары загадзя пазабіралі; каму ж яшчэ з таго пажылога народу хацелася б валачыцца за нейкімі флісамі — даравананаму ж каню ў зубы не заглядаць...

Толькі вярнуўшыся дахаты можна было пагасіць цікавасць ды прынесенай здабычы. Паколькі, дзеля атрымання флісавых цудаў, на прэзентацыю падаліся мы парай, дык і атрымалі пару тых дароў — па адным з кожнай кардонкі. З абедзвюх кардонак былі невялікія дрыгатушкі з батарэйным прыводам. Адна, паўночнакарэйскай вытворчасці, уяўляла сабой прыбор для — агульна кажучы — ліфтынгу, значыць для выгладжвання скуры. Гэты прыбор, як падае яго апісанне на ўпакоўцы, адшліфоўвае скуру з адлушчын ды мазалёў. Значыць, пасля яго прымянення скура павінна стаць аксамітнай.

Другая дрыгатушка, кітайскай вытворчасці, у выглядзе невялічкага дэльфіна (дэльфін, у агульнай міфалогіі, ратуе ўсялякіх пацярпеўшых крушэнне бедалагаў), гэта масажор, але не толькі. Паводле апісання на ўпакоўцы яна абнаўляе скурную тканку, папраўляе мышачны тонус і рэдукуе скурныя абвісласці, ачышчае скуру ад старэчых плям, ліквідуе маршчыны і порыстасць; ліквідуе таксама сонечныя апёкі. Гэты прыбор намнога карыснейшы пажылым пенсіянерам чым розныя флісавыя цяплушкі. Чалавеку, дапусцім, восемдзесят дзевяць гадоў, ледзь згорблены ходзіць на мыліцах, а калі глянуць на выгладжаны дрыгатушкамі твар, дык той румяны і сакавіты, лыткі як у гімназічнага народу — адна радасць.

А яшчэ калі хто пакарыстаўся прапанову у некалькі пенсіянерскіх пенсій і прыдбаў сабе нейкі рондаль ці каструлю, той можа заняцца яшчэ і фізкультурнымі практыкаваннямі. Замест купляць у краме гатовае масла, можа ў той жа краме купіць смятану, уліць яе ў адмысловы кухонны камбайн і атрымаць самаробнае масла. Праўда, масла можна атрымаць са смятаны і іншым самаробным чынам: хопіць купіць 30- або 36-працэнтную смятану, забыць яе на тыдзень-два і масла гатовае. А хто іншы можа купіць малако, прыпаліць яго ў каштоўнай каструлі і пасля выліць у нейкую ракавіну. Або паставіць тую каструлю на відным месцы і ганарыцца ёю як вабнай бландзінкай. І трымаць у хатняй скарбонцы паўтаратысячныя талоны, чакаючы з нецярплівасцю чарговай прэзентацыі. Да таго ж яшчэ нельга забываць і пра паднімаючы тонус прыбытковы спектакль.






*Вера МАСАЙЛА*

## *Такі закон*

*Плывуць журайлі*
*ў пярыне асенняга*
*неба*
*а я хаваю глыбока*
*ключ*
*ад цытадэлі*
*маркотных думак*
*Скідаю плашч тугі*
*тапчу сукенку суму*
*з чыгункі жыцця*
*перасядаю на спрытны*
*веласіпед*
*еду*
*Расцвітаю колерамі*
*чароўнай восені*
*поспехамі дзяцей*
*штодзённым шчэбетам*
*унукаў з Мінска і Варшавы*
*на Скейпе*
*пашанай мужа*
*прысутнасцю і турботай*
*мамы*
*пахам яблыкаў*
*і даждржом каштанаў*
*падаючых на маё сэрца*
*і бацькоўскі панадворак*
*Цешуся што пляменнік*
*Грышка*
*не пазволіць*
*слядам дзеда*
*зарасці крапівой*
*Плывуць журайлі...*
*Іх запасны ключ*
*на жаль*
*зноў адкрывае дзверы*
*да крэпасці*
*маркотных думак*
*Відаць такі ўжо*
*закон*
*беларускіх*
*жанчын*
*пяцьдзесят плюс*

## *Малюнак з дзяцінства*

*На краю цішыні*
*паміж уздыхам*
*і дыханнем*
*запахла дзяцінствам*
*Карціну са знаёмым*
*памяшчэннем ахіліла*
*вопратка дабрыні:*
*у кутку перад позіркам*
*Усявышняга*
*прыгнёны гадамі*
*дзядуля*
*хрысціцца*
*і цалуе ўпаўшую*
*скарынку хлеба*
*Побач на лаўцы*
*радок блях*
*з уцякаючым хлебам*
*На кожным расце*
*пяшчотны дотык*
*рукі гаспадыні —*
*сімвал святасці*
*крыжык*
*Бабуля ў хустцы-закручанцы*
*з кацюбой у руцэ*
*заглядае ў глыб*
*пашчы зяхаючай*
*жарам печы*
*паспяхова выгартае*
*жар у пліту*
*З недапаленай галавенькі*
*дом замяняецца ў маму*
*Яе рукі на кроснах*
*вычароўваюць*
*чарговую плахту*
*ў пераборы —*
*пасаг дзіцяці...*
*.....*
*Хто мог ведаць*
*што труд з сундукоў*
*прыдасца*
*толькі да перасушвання*
*летам*
*а хлеб наш надзённы*
*можна будзе*
*пабачыць*
*у смецці?!.*

# Нашы кавальскія крыжы



■ Войцеха Кавальчука вітае працаўніца Музея Сакольскай зямлі Аляксандра Плю-

Ва ўступе да свайго альбома «Кавальскі крыж на Падляшшы» Войцех Кавальчук піша: «Сабраны матэрыял публікуем з надзеяй, што наша спроба прадстаўлення тэмы не вычэрпвае гэтай праблемы. Спадзяемся, што стане яна дадатковым штуршком любіцелям народнага мастацтва і этнаграфіі да далейшых пошукаў і адкрывання непаўторных у маштабе краіны багатых традыцый аздаблення кавальскімі каванымі крыжамі прыдарожных кальварый і каплічак. Яе мэтай з'яўляецца інспіраванне жыхароў гэтага рэгіёна да зберагання і аховы існуючых яшчэ каваных крыжоў, а таксама ўзбуджэнне патрэбы вяртання да традыцыі кавання крыжоў сярод кавалёў і фундатараў новых пасійных сімвалаў».

У гэты раз з тэмай кавальскіх крыжоў Войцех Кавальчук пазнаёміў жыхароў Саколкі. У зале Музея Сакольскай зямлі можна было паглядзець частку калекцыі, якую складае 130 экспанатаў. Паказваліся крыжы, між іншым, са Старога Корніна, Галадоў, Дубіч-Царкоўных і Паўночнага Вострава. Калекцыя — вынік шматгадовай працы Падляшскага музея ў Беластоку, а дакладней кіраўніка аддзела этнаграфіі Войцеха Кавальчука.

— Крыжы складалі частку сакольскай рэчаіснасці. Было іх сапраўды шмат, — кажа ён.

У знікненні крыжоў, на яго думку, можна абвінаваціць мясцовае насельніцтва, іх абыякавае стаўленне да сваёй духоўнай спадчыны. Даўнімі кавальскімі крыжамі спадар Войцех проста захапляецца і можа без канца пра іх гаварыць.

Упершыню, на самым пачатку ХХ стагоддзя, кавальскімі крыжамі пацікавіўся Міхал Браништэйн. У 1922 г. пра ахову крыжоў пісаў Ян Віктар, а таксама брат маршала Пілсудскага. Толькі ў 60-х гадах ХХ стагоддзя Пётр Шацкі з Этнаграфічнага музея ў Варшаве звярнуў увагу на крыжы Сакольшчыны.

Належнага стаўлення да старых крыжоў можам пазайздросціць літоўцам. Там здаўна вялася дэталёвая даследчыцкая праца па захаванні і папулярызацыі колішніх форм і ўзораў кавальскіх крыжоў.

— Калі на адным з кавальскіх майстар-класаў паказаў я літоўцам нашыя каваныя крыжы, не маглі паверыць, што яны не літоўскія, — гаворыць спадар Войцех. — Сведчыць гэта пра нашу вялікую, супольную, культурную прастору.

Тэма крыжоў надалей застаецца непрыкмечанай. Жыхары вёсак крыжы ўспрымалі цэласна. Кланяліся ім, маліліся, але на дэталі, такія як каваны верх, увагу звярталі нешматлікія. З прыдарожнымі кованымі крыжамі найчасцей можна было сустрэцца ва ўсходніх рэгіёнах Польшчы — на Беласточчыне, пад Белай-Падляшскай і на Любліншчыне. Яшчэ ў міжваенны перыяд каваныя крыжы масава з'яўляліся на могілках на бяднейшай тэрыторыі паўднёвай часткі Беласточчыны. Іх вырабам займалася вузкая група кавалёў, у тым ліку яўрэяў. Беручы пад увагу цяжкасці з доступам да сыравіны, адзін крыж ляпілі з некалькіх асобных кускоў металу.

Найстарэйшыя экспанаты ў музейнай калекцыі Войцеха Кавальчука паходзяць з васямнаццатага стагоддзя. У пераважнай большасці аздаблялі яны вярхі магільных, прыхатніх і прыдарожных крыжоў і каплічак XIX стагоддзя. Па студзеньскім паўстанні ставіць і аднаўляць гэтыя, у нейкім сэнсе патрыятычныя сімвалы, было забаронена. Зноў масава пачалі яны паяўляцца напрыканцы XIX стагоддзя. На пачатку ХХ стагоддзя выцяснілі іх крыжы з металічных прутоў.

У час сакольскай сустрэчы спадар Кавальчук звярнуў увагу на разнароднасць формы і дэкаратыўнасць каваных крыжоў.

— Я не бачыў ніводнага каванага крыжа, які быў бы зусім пазбаўлены нейкага, хаця сімвалічнага, аздаблення, — кажа ён. — Адным з найчасцей сустраканых дэкарытыўных матываў з'яўляецца паўмесяц. Аднойчы пад адным з такіх крыжоў запытаў я 70-гадовага жыхара вёскі, што абазначае паўмесяц. Ён мне абʼясніў: «Спадар, я цэлае жыццё тут шапку здымаю, а ніякага паўмесяца не бачыў».

Паўмесяц гэта, паводле слоў Войцеха Кавальчука, частка кампазіцыі, мастацкі парадак тагачасных творцаў. Ён дапаўняе круг, у які ўпісаны крыж. Чарговымі матывамі каванага крыжа бываюць шчыт, у якім памешчана пасія Хрыстова, і быццам сонечныя прамяні.

Дзякуючы ручной працы майстроў кавальскія крыжы непаўторныя. Іх сапраўдную прыгожасць можна заўважыць толькі на адкрытай прасторы, у сонечным святле. Кавалі карысталіся аднолькавымі, незалежнымі ад канфесії прынцыпамі кавання, таму рэдка калі можна ўбачыць розніцы паміж праваслаўнымі і каталіцкімі крыжамі.

— Некаторыя з паказаных крыжоў паходзяць з судовай перадачы. Усе мяне пытаюць ці яны праваслаўныя, ці каталіцкія, а я не магу адказаць ім на гэтае пытанне.

На Беласточчыне гэтым рэдкім рамяством паспяхова займаюцца Марк Казак, Раман Мушынскі, а таксама прадстаўнікі сям'і Гулевічаў.

— Паяўляецца адно важнае пытанне: як перакананць мясцовых да захавання крыжоў, якія яшчэ засталіся? — клапоціцца Войцех Кавальчук. — Нагод, каб падняць такі крыж і ўзяць яго з сабой было ў мяне шмат, але я ніколі так не зрабіў. Не магу адабраць часткі гісторыі гэтай зямлі.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# http://pppp.by

Ці пасуе беларуская мова для бізнесу? Выходзячы з пункту гледжання цяперашняга прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, абсалютна не пасуе, больш таго — шкодзіць, бо нездарма напачатку свайго прэзідэнцтва ён ясна выказаўся, што нічога значнага на ёй сказаць немагчыма. „Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут ничего делать, кроме как разговаривать на нём, потому что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык. В мире существует только два великих языка — русский и английский", — казаў ён у сярэдзіне 1990-х гадоў, і да гэтага часу не было чуваць, каб неяк дэзавуяваў гэтую сваю трызню.

Затое жыццё, якое заўсёды мудрэйшае за ўсіх прэзідэнтаў разам узятых, паказвае, што людзі, якія размаўляюць па-беларуску, могуць яшчэ і быць паспяховымі бізнесменамі нават там, дзе ўлады выкараняюць беларускую мову. Доказам гэтаму, напрыклад, з'яўляецца фірма „Праўны пераклад", якая не толькі вядзе сваю працу ў тым ліку на беларускай мове, але і ўдзельнічае ў навучанні іншых бізнесоўцаў беларускай мове ў распачатых у Беларусі Асацыяцыяй еўрапейскага бізнесу курсах бізнес-беларускай. Дарэчы, акрамя „Праўнага перакладу", сваімі напрацоўкамі падчас курсаў дзеляцца прадстаўнікі апаратара мабільнай сувязі «Вэлком», транспартна-лагістычнай кампаніі «Фабеас», інтэрнэт-крамаў Imbryk.by і Prastora.by, фірмы па вытворчасці мыла Karali.

Сайт „Праўнага перакладу", што месціцца па адрасе http://pppp.by/ выглядае даволі прывабна, але някідка. Афармлены ў салатавым колеры, ён неяк заспакойвае, натхняе да больш-менш працаглага знаходжання на ім.

З назвы фірмы зразумела, што займаецца яна перакладамі з розных моў. Больш таго, навучае перакладчыцкай справе супрацоўнікаў іншых фірм.

Сярод вартых наведвання старонак сайта можна адзначыць рубрыку „Цікава". Там знаходзяцца спасылкі на іншыя сайты, дзе змешчаны артыкулы і іншыя матэрыялы, датычныя беларускай мовы. Так, з „Праўнага перакладу" мы можам выйсці на сайт часопіса „Архэ", дзе распавядаецца, што беларуская мова — найбольш сексуальная ў Еўропе. Пра беларускі слэнг распавядаецца ў прышпіленым файле „Новы беларускі слэнг: ня будзь цямцюром!". У выглядзе слоўніка там падаюцца слэнгавыя словы і выразы з тлумачэннямі на літаратурнай беларускай мове. А вось пра тое, што беларуская мова дае перавагі на беларускім рынку распавядае ўласна дырэктар „Праўнага перакладу" Аляксей Нарэйка ў сваім інтэрв'ю парталу tut.by, што было дадзена больш за два гады таму.

Паводле спадара Нарэйкі, у Беларусі пашыраецца цікаўнасць да беларускай мовы з боку суб'ектаў гаспадарання. „Мы, як вузкія адмысloўцы — лінгвісты, заўважаем, што год-два таму ў нас была прыкладна адна-дзве замовы на месяц, каб пераклaсці нешта з беларускай мовы або на беларускую мову. Сёння мы кожны тыдзень маем восем-дзесяць замоваў на пераклад з беларускай мовы або на беларускую мову", — распавядаў кіраўнік „Праўнага перакладу".

Ён лічыць, што беларус, які размаўляе на беларускай мове, мудрэйшы за таго, хто так не робіць. „Бо ён увесь час мае доступ да гэтай мудрасці бацькоў праз сваю мову, якая папярэджвае адценнем словаў, напрыклад, што тут ёсць нешта кепскае, або, наадварот, — добрае...", — адзначае бізнесовец, які ўмее не толькі размаўляць па-беларуску.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

*„Папа літоўскіх кальвіністаў"*

# 485 гадоў з нараджэння Андрэя Волана

Вялікалітоўскі палітычны дзеяч Андрэй Волан нарадзіўся ў 1530 годзе. У нашай гісторыі ён вядомы як філасоф, ідэолаг рэфарматаў-евангелістаў, літаратар, сакратар Мікалая Радзівіла „Рудога", каралёў Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Жыгімонта Вазы. Паходзіў ён са шляхецкага роду, сын Яна Волана і Соф'і з Квілецкіх. У 1544-1547 гг. вывучаў дыялектыку, рыторыку і эпісталаграфію ва ўніверсітэце ў Франкфурце-на-Одэры, дзе пазнаёміўся з ідэямі Рэфармацыі.

Каля 1550 г. Волан стаў сакратаром Мікалая Радзівіла „Рудога". Дзякуючы падтрымцы Радзівілаў у лістападзе 1550 г. пачаў навучанне ў Караляўцы. Найвялікшы ўплыў на Волана ў гэты перыяд меў рэктар Георг Сабінус. Вярнуўся з-за мяжы Волан ужо зацятым кальвіністам.

Скончыўшы навучанне, Андрэй Волан пасяліўся ў Літве. Ад Мікалая Радзівіла „Рудога" атрымаў маёнтак Біюцішкі, а ад Жыгімонта Аўгуста — вёскі Чарэшчанету і Гербенету, таксама да смерці кіраваў староствамі Рудомін і Немеж. Пасля заключэння Люблінскай уніі шматразова быў абіраны паслом на сойм Рэчы Паспалітай ад Ашмянскага павета. За часам Стэфана Баторыя стаў ганаровым каралеўскім сакратаром, часта быў пасрэднікам паміж каралём і шляхецкімі соймікамі, выконваў важныя дыпламатычныя місіі ў Інфлянты, Аўстрыю, Маскоўскую дзяржаву. У 1595 г. быў у Маскве як пасол разам з Львом Сапегам.

З часу вяртання на Літву звязаўся з мясцовым кальвіністкім зборам. З часам стаў лідарам віленскіх евангелікаў і „архіністрам" мясцовай грамады, „папам літоўскіх кальвіністаў". Удзельнічаў у некалькіх сінодах літоўскіх кальвіністаў, у час якіх пераконваў у неабходнасці аб'яднання евангелікаў з лютаранамі альбо праваслаўнымі. У 1590 г. сінод надаў яму функцыю цэнзара кальвінісцкіх кніг.

Як соймавы пасол і пісьменнік Волан браў чынны ўдзел ва ўнутраным палітычным жыцці ВКЛ. Змаганне паміж рэлігійнымі партыямі, якое пагражала небяспекай існаванню пратэстанцтва ў Рэчы Паспалітай, улучыла Андрэя Волана ў палеміку з абаронцамі каталіцтва і розных пратэстанцкіх сектаў.

Волан быў знаёмы з асноўнымі прадстаўнікамі літоўскай Рэфармацыі: Янам Глябовічам, Сымонам Турноўскім, Янам Абрамовічам, Янам Ласіцкім, Станіславам Судроўскім, Андрэем Дудычам, Андрэем Храстоўскім. Быў тройчы жанаты, меў трох сыноў і некалькі дачок.

Аўтарству Волана належыць каля 50 твораў, напісаных пераважна лацінаю: палітыка-прававых трактатаў, прац па этыцы і багаслоўі, пасланняў, пропаведзей. Частка яго лістоў і прамоваў засталася ў рукапісах. Ва ўласных працах сцвярджаў пра прысутнасць Хрыста ў Еўхарыстыі, папскі прымат, боскую сутнасць Хрыста, культ святых і абразоў і пра законнасць цэлібату. Працы Андрэя Волана друкаваліся ў Вільні, Кракаве, Данцыгу, яго творы перакладаліся гугенотамі ў Францыі, кальвіністамі ў Германіі і ўключаліся Ватыканам у Індэкс забароненых кніг. Волан супольна з Сымонам Будным быў ініцыятарам выдання ў Лоску сачынення Анджэя Фрыча Маджэўскага „Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай". У сваіх творах часам кранаўся палітычных і сацыяльных тэм, трымаючыся і тут рэфарматарскага пункту гледжання, выступаў за роўнасць усіх саслоўяў. Памёр Андрэй Волан 6 студзеня 1610 г., пахаваны ў маёнтку Біюцішкі (непадалёк Барунаў і Гальшанаў, цяперашні Ашмянскі раён).

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

5 ☞працяг

# Семяноўская чайка



Суседкі Галіна і Валя Медзвядзіхі

домасці таго, што спявае мой твор, «пазычыўшы» яго ад «Сказкі»), праз беластоцкі «Гай», гарадоцкі «Хутар», гайнаўскі «Рэтро-біт», да мінскай «Церніцы» і «цыганскага» ансамбля Алены Рудкоўскай...

— У маёй роднай вёсцы, як штогод, 9 жніўня... — усміхаецца Галена-Марыёля Рэент, дырэктарка ГЦК у Нараўцы, — ёсць фэст і сёлетні чарговы выпуск «І тут жывуць людзі», разам з Беларускім музеем, Гмінай управай у Нараўцы і ГЦК, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Мяне вельмі цешыць тое, што так многа людзей прыйшло, што надвор'е такое добрае, сугучнае настрою людзей. Людзі чакаюць такіх мерапрыемстваў, нагоды для сустрэч, успамінаў. Можам паслухаць пра гісторыю...

Са сцэны слухачы цярпліва слухаюць расказу пра гісторыю вядомага гісторыка Адама Даброньскага, які выбраў з некароткага часу існавання Семяноўкі і асвятляе некаторыя яго моманты:

— І як думаеце, колькі выбаршчыкаў пайшло да выбараў Грамадскай рады нарадовай у 1965 годзе? Так, 99,9 адсотка — прынамсі так напісана ў справаздачы. А хто ўвайшоў у склад тае рады: Павел Пташынскі, Юзаф Зубрыцкі, Іван Кастанчук, Ян Шыманюк, Ян Аніскевіч, Рыгор Аніскевіч, Ян Байко, Канстанцін Засім, Аляксандр Шыманюк, Эдвард Бай, Павел Шыманюк, Марыя Аніскевіч, Ян Шымонюк, Міхал Васільчук, Аляксандр Лаўнічук, Яўген Смольскі, Стэфан Пучынскі... Гэта была семяноўская эліта. А што мелі пасля ў планах збудаваць у сувязі з «залевам», які меў быць гонарам усяе ўсходняй Польшчы? У самой Семяноўцы планавалі наступныя інвестыцыі: пажарнае дэпо, злеўню малака, грамадскую краму, рамесны павільён, пачатковую школу, школу сельскай падрыхтоўкі, агранамоўку, ветэрынарны пункт, базу сельгасгуртка і базу паліваў, дзіцячы сад з яслямі, пункт аховы здароўя з аптэчным пунктам, народны дом, лазню з пральным пунктам, спартыўныя пляцоўкі, гмах для прэзідыума, міліцыі і пошты, супрацьпажарны рэзервуар, пункт убойні, новы могільнік... А што найбольш знервавала выбаршчыкаў? Падатак ад ровараў, прытым платны на тры гады. Успамінаюцца ў дакументах пра грамадскія пачыны — будаванне святліцы, брукаванкі, жвіроўкі... Было тры «ральнічыя кулкі» — у Семяноўцы, Тарнопалі, Луцэ... Добра было б жыць у такой мясцовасці. А тут і гэтага няма, і шмат знікла з таго што было... А і «заліў» паводле планаў гэта звычайная сажалка. Сюды ў рамках штодзённага адпачынку мела прыязджаць да 50 тысяч наведвальнікаў, а ў рамках суботнenядзельнага — 230 тысяч аматараў чыстай прыроды. Пляжная гастраномія мела мець «прапускную здольнасць» 10 тысяч чалавек у дзень!..

— Можам пахваліцца, — працягвае Марыёля Рэент, — сваімі дасягненнямі, паказаць свае творчыя вынікі. Вельмі цешаць мяне выступленні нашых тутэйшых аўтараў, якіх рады прагрэсуюць амаль геаметрычна!

На жаль, не кожны аўтар з семяноўскага староння ахвочы да таго, каб раскрыць свой творчы стол, каб у меншай ці большай кампаніі рассакрэціць свае думкі. Васіль Бірыцкі, якога ўсё ж удаецца мне зластаць, прыгадвае з памяці свае вершы: *Войт ты, войт, ты памыліўся: пра Школьную вуліцу забыўся. Ты вялікі маеш дар, улажы на Школьнай тратуар. Войце, войце даражэнькі, каб цябе ў будучыні хвалілі і старыя і маленькі...* Ну, бо ж цэлае жыццё войтам не будзе. Я яго так «пад шпіц» браў. І суседзям верш прысвячаў. Ёсць такія, што з Беластока прыязджаюць, то баяцца выходзіць на вуліцу, бо ходніка няма, *каб не ўпалі і рабрынкі паламалі...* Або пра дыскатэку. *Чуці гукі дыскатэкі. Хлопцы ходзяць як калекі, кожны бутэльку ў кішэні мае, толькі шыйка выглядае. А дзяўчаты як маліны, у кожнае спаднічка міні...* А такі верш пра Семяноўку. *За гарою, за ляском маленькая хацінка, там жыве сабе Антось і Надзя яго жынка. Ён нядаўна ажаніўся. Не мінула і паўгода, ані разу не сварыўся, ох, якая згода....*Або: *У Семяноўцы ёсць два муры, адзін пры цэркве — ён мае больш культуры. У цэркве моладзі так мала, штось да кіёску іх прыгнала...* Пішу вершы здаўна. Усё жыццё працаваў я ў замежным гандлі, а на пенсіі так і складаюцца. Я пакуль ад клуні да гуліцы прыйду, то ўжо верш складу... Весялей!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

3 ☞працяг

# Міністэрскае вызначэнне беларушчыны

кі. З задумы Лявона Тарасэвіча, спектакль расказваў аб лёсе «тутэйшых» пасля пасляваеннага вызначэння савецка-польскай мяжы. Дырэктарка Драмтэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур сёння кажа:

— «Трыялогі», арганізаваныя «Вілай Сакрата» — самае лепшае, што магло здарыцца беларускай меншасці на гэтай тэрыторыі. Людзі, якія ствараюць «Вілу Сакрата», гэта знакамітыя мастакі, якія разумеюць, што развіццё беларускай культуры гэта не спазіранне ў бок свайго панадворка, але шырокае адкрыванне дзвярэй для ўсіх, хто многа аб беларусах не ведаюць. Сабранне на працягу некалькіх дзён «Трыялогаў» такога маштабу мастакоў, журналістаў, грамадскіх дзеячаў з Беларусі, Польшчы і свету гэта не толькі намаганні Лявона Тарасэвіча, Паўла Грэся, Юркі Асенніка і астатніх супрацоўнікаў «Вілы Сакрата», але эфект на меру пан'еўрапейскага мыслення. Ідэя развіваецца толькі праз абмен, а сіла яе ўздзеяння, хаця немагчымая для адмерання стоўбікамі, з'яўляецца найлепшай ацэнкай, якую могуць паставіць сабе тутэйшыя беларусы.

Славамір Іванюк, адзін з двух прадстаўнікоў беларусаў у Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей, пасля таго як даведаўся аб сітуацыі звязанай з шаснаццатымі «Трыялогамі», прызнаўся:

— Крытэрыі, устаноўленыя пры размеркаванні датацый МАіЛ арганізацыям меншасцей могуць быць, як відаць, інтэрпрэтаваныя па-рознаму. Той, хто ацэньвае заяву, можа падысці да яе суб'ектыўна, напрыклад, пры крытэрыі датычным сілы, ступені ўплыву намечаных задач на асобы, якія належаць да беларускай меншасці дзеля захавання сваёй самабытнасці. «Трыялогі» ў доўгатэрміновай перспектыве маюць значна большы ўплыў на беларускую меншасць, чым які-небудзь беларускі фэст. У сувязі з рашэннем МАіЛ аб XVI «Трыялогах» можна толькі выказаць шкадаванне. Гэта сведчыць аб нядобрай палітыцы польскай дзяржавы ў адносінах да беларускай меншасці, недаацэньванні вечных каштоўнасцей і аказваецца, аднак, што «панская ласка на рабым кані ездзіць» і абавязвае з боку дзяржавы прынцып: я магу, але не мушу, і мы мусім даказаць сваю беларускасць. Гэтае рашэнне з'яўляецца элементам асіміляцыйнай палітыкі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# 11.01 — 17.12

**(22.03. — 20.04.)** Стабільнасць і пачуццё бяспекі ў пары. Можаш спадзявацца на падтрымку сям'і і сяброў. Хаця ад 12.01. цяжка будзе табе злавіць дыстанцыю да сябе і таго што адбываецца, бо да ўсяго будзеш падыходзіць смяртэльна сур'ёзна; стрэс можа моцна пашкодзіць твой імунітэт. 12-17.01. могуць паявіцца праблемы і затрудненні, якія могуць спрычыніцца да таго, што будзеш прымушаны адмовіцца ад нейкага праекта.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш мець шанцы на рэалізацыю сваіх намераў. 11-15.01. захаваеш сваю незалежнасць і задбаеш аб свае інтарэсы. Выбірай нетыповыя вырашэнні, тады здабудзеш тое аб чым марыш. Прыемнасці на працы. Маеш шанц пасталець. Будзеш моцны і трывалы, але пільнуй свайго сэрца і кровазвароту. Вядзі гігіенічны лад жыцця.

**(22.05. — 22.06.)** 12-16.01. прыйдуць табе ў галаву геніяльныя задумы; не бойся цяпер іх ажыццяўляць — усё ўдасца. Тваё прыязнае і адкрытае стаўленне прыхіліць да цябе людзей, будуць шукаць у цябе зразумення і дапамогі пры паладжанні праблем. 11-16.01. лепш дагаворышся з сябрамі чым з уласнай сям'ёй. Многа варушыся, але пільнуй горла. Другая і трэцяя дэкада вельмі працавітыя, пазмагаешся за лепшую пазіцыю.

**(23.06. — 23.07.)** Адважна рушыш на новыя шляхі. Будзеш прадпрымальны і канкрэтны. Добры час на падарожжы і выезды ды здабыванне ведаў. Маеш тэндэнцыю ставіць сябе ў залежнасць ад сваёй другой палавінкі, вырвіся з гэтай схемы. Рэлаксуйся. Бяры, што прыносіць лёс.

**(24.07. — 23.08.)** Ідзі ўперад і не азірайся назад. Зоркі рыхтуюць табе новае адкрыццё. Самотны Леў мае час на змены; азірайся: хтосьці быццам бы малапрыкметны — вялікая індывідуальнасць, і можа з гэтага ўзнікнуць штосьці сур'ёзнае. 11-15.01. не бойся новых абяцанняў і выклікаў. Дома старайся шукаць кампрамісаў. Схадзі да лекара, сам не лячыся. На працы цікуе канкурэнцыя!

**(24.08. — 23.09.)** 12-16.01. шыкуецца надта чароўнае здарэнне. Здабудзеш веды, якія памогуць табе пазбегнуць праблем на працы. У пары вашы адрозненні могуць яшчэ павялічыцца, але не пераймайся, пазмагайся за пачуцці. Справы будуць ісці як хочаш ты, асабліва дома. Пад канец тыдня знакаміты час на сяброўскія сустрэчы.

**(24.09. — 23.10.)** 11-15.01. будзеш захоплены, што невялікім высілкам зможаш так шмат дасягнуць. Гэта час агромных поспехаў! Але будзь асцярожны, не давярай салодкім слоўцам, бо можаш «пераехацца»; хтосьці схоча забавіцца тваім коштам, балюча цябе абмануць. 11-16.01. будзеш больш цярплівым, памяркоўным, што дасць новыя шанцы табе і партнёру. Хаця ад 12.01. на працы будзеш вельмі актыўны, не будзеш рады рэзультатам, ісці будзе ўсё як па грудзе. Цяжка дагаварыцца будзе табе і з кіраўніцтвам, і з супрацоўнікамі.

**(24.10. — 22.11.)** Не бойся змен у пачуццях. А ў трывалай і згоднай пары ўсё добра, толькі супрацьпастаўцеся руціне. У фінансах і на працы новая раздача, ажыццяўляй старыя задумы. Не бяры цяпер крэдытаў і пазык.

**(23.11. — 22.12.)** Старайся разумець партнёра, ён сапраўды цябе кахае. А калі ты яшчэ сінгл, пакуль не разлічвай на вялікае каханне (рамансуй колькі хочаш). 10-12.01. дома могуць быць складанасці, не вер у ілюзію і не ацэньвай павярхоўна. Пакінь ласункі і тлустую ежу, пі зёлкі.

**(23.12. — 20.01.)** Будзь патрабавальны і да сябе, не толькі да партнёра. 12-16.01. найлепш табе ўдасца наладжванне знаёмстваў праз інтэрнэт. 13-17.01. можаш адчуваць прыгнечанасць, нават простыя справы будуць цябе перарастаць; цяжкасці і нелады ў планах. Вырашэнне хатніх спраў не адкладвай на пасля. Не пераборшчвай з фізічным высілкам. Затое магчымы неспадзяваны грашовы прыбытак!

**(21.01. — 19.02.)** 11-16.01. увядзеш важныя змены. Пісаны табе поспех, асабліва ў матэрыяльным і кампанейскім планах. Пераканаешся, што блізкія тваму сэрцу гатовыя адкласці свае справы і паспяшыць табе з дапамогай. Добры настрой і здароўе. Вельмі пільнуй свайго кашалька.

**(20.02. — 21.03.)** Пасля 12.01. выкажашся арганізатарскімі здольнасцямі і ўмеласцю планавання, будзеш баявіты і непераможны, зрэалізуеш нават адважныя праекты. Дойдзе да голасу твой тэмперамент (добра ў ложку, горш калі ўзмоцняцца твае крытыканства і непрымірымасць). 12-16.01. дробныя праблемы з «белай варонай» у сям'і. Раскрунешся на працы ў канцы тыдня, тады пачынай найважнейшае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. хлусня, 2. прафесійнае рукадзелле, 3. заліўная сенажаць, 4. левы прыток Амура, 5. унутраны бок кісці рукі, 6. журба, смутак, 7. тамат, 8. горад між Барысавам і Стоўбцамі, 9. вузканосая малпа з паўднёва-усходняй Азіі, 10. нутраны ялавічны тлушч, 11. круглы лік у... Беластоку, 12. горад, у якім працавалі Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | 2 | | |
| | | | | | | 3 | | | 4 | | |
| | | | | 5 | | 6 | | | 7 | | |
| | 8 | 9 | | | | | 10 | | | | |
| | | | | | | | 11 | | 12 | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 51 нумара

Куль, маса, пай, пяць, стадыя, сучка, цуд.

Рашэнне: **Кладучыся спаць, падумай як устаць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Украіна ў цяні вайны (16)

Згодна з планамі, нашае падарожжа мела завяршыцца ў Пачаеве. Яшчэ хацелася наведаць старыя месцы і людзей, каб паглядзець як іх свет і ідэі памяняліся на працягу апошніх дзесяці гадоў. Але тыя апошнія справы зусім зышлі на другі план. Мы мелі, напрыклад, паехаць у Рагатынь, куды клікалі наравістыя здарэнні з мінулага, якія не дачакаліся запісу. Аднак замест калясіць па старых месцах, мы падаліся ў іншыя, яшчэ не абложаныя памяццю і сентыментамі вакзалы, завулкі і дамы. Замест развітання ў смутку і сцішанасці, да чаго хіліла траўма вайны і рэальныя ахвяры, мы паехалі ў іншы, нязведаны яшчэ бок, каб там адкрыцца на месцы і здарэнні, дзе прамаўляў новы дух і воблік краіны, загледжанай і адкрытай ужо на Еўропу. Вайна, замест напалохаць і вярнуць на старыя кругі гісторыі, яшчэ больш падбівала прагу вырвацца з-пад залежнасці ад Расіі і нараджаючайся там дыктатуры. Ваенная гатоўнасць і баявітасць украінцаў здавалася быць з іншага свету, быццам гару ўзялі міфы, а не іх рэальныя магчымасці. Хоць усе наракалі на недахоп зброі ды рацыянальныя высновы застаўлялі б лічыцца з магчымай паразай, украінцы паўтаралі:

— Гэта нічога што ў нас няма зброі, гэта яшчэ не канец свету. Пойдзем ваяваць і адбярэм зброю ды танкі ў нашых ворагаў...

Падобную тактыку, з вялікай, хоць кароткай, паспяховасцю прымяняў легендарны Махно амаль сто гадоў таму назад, змагаючыся з бальшавікамі.

Таксама разам з успыхам вайны адраджаўся міф нацыянальнай партызаншчыны. У справядлівай перамозе дапамагаць мелі лясы, горы ды нераманта-ваныя дарогі, на якіх і без вайны лёгка скалечыцца або забіцца...

* * *

Для жыхароў Заходняй Украіны вайна не была громам з яснага неба, хутчэй фатальнай паслядоўнасцю. Як памятаю, цягам апошніх гадоў у мужчынскіх кампаніях усё абмяркоўвалі тэму вайны з Расіяй. Магчыма, што ў такі спосаб людзі адрэагоўвалі карупцыю і бандытызм, занпад інфраструктуры і паніжэнне жыццёвых стандартаў. За дваццаць тры гады незалежнасці ўзровень жыцця звычайнага ўкраінца замест падняцца ўсё заставаўся на ўзроўні дзевяностых гадоў. Асноўным клопатам тут далей было выжыванне, а галоўнай крыніцай дабрабыту стала эміграцыя. Наша знаёмая з Пачаева ўсе сціплыя інавацыі і змены ў сваёй гаспадарцы навяла дзякуючы паездкам у Польшчу, дзе працавала гаспадыняй. Дзякуючы сціплым заробкам — тысяча злотых на месяц — яна завяла ў сваім доме тэлефон, пабудавала новы плот, а ў прыбіральні з'явіўся душ. На працягу дзесяці гадоў у хаце з'явілася яшчэ нямецкая канапа са шкуры — найбольшая мара гаспадыні. Тую канапу, зараз прыаздобленую цялячымі шкурамі, яна набыла ў магазіне з ужыванай мэбляй... Гэта ўсе матэрыяльныя змены за цэлыя дзесяць гадоў! Сціплы прыбытак за начлегі для паломнікаў раыходзіўся на хаду, найперш на аплату камунальных паслуг.

Як не дзіўна, самае вялікае натхненне, каб далучыцца да Захаду, не ішло з найбольш багатых краін свету, Амерыкі ці Нямеччыны. Не, больш захапляла Польшча ці Славакія, а апошнім часам Румынія — краіны-суседкі, якія дзякуючы зменам сталі на ногі. Розніцы найперш праяўляліся ў пабудове публічнай інфраструктуры — добрых дарог, аднолькавых цэнтраў і месцаў адпачынку. Нягледзячы на недахопы, украінцы вельмі наблізіліся ў стылі жыцця ў Еўропе. Асабліва маладыя. Гэтыя трымаюць сучасныя трэнды ў модзе і стылі быцця. Па знешнім выглядзе сёння немагчыма адрозніць жыхароў Львова і Любліна. У гарадах з венгерскім насельніцтвам, такім як Мукачава, дзе трэцяя частка жыхароў мае дадатковы, венгерскі пашпарт, *еўрапейскасць* большая, чым у Беластоку. За дзесяць апошніх гадоў, нягледзячы на рэальную мяжу з Захадам, сфармавалася своеасаблівае грамадства памежжа з рэальным супрацоўніцтвам не толькі ў галіне кантрабанды. На вуліцах Пярэмышля што крок можна пачуць украінскую мову.








* * *

У час апошняга падарожжа ўкраінцы як ніколі прадэманстравалі сваю жыццяздольнасць і баявітасць. На кожным кроку мы сустракалі білборды з мілітарнымі заклікамі, якія заахвочвалі грамадзян падвучыцца самаабароне. Знешні спакой і стрыманасць у словах, памяркоўны вобраз вайны, называнай афіцыйна «антытэрарыстычнай акцыяй», застаўлялі з надзеяй верыць у заўтрашні дзень. Мабілізацыя прайшла таксама на аграрным фронце. Едучы ў бок Прыкарпатыі, мы міналі бясконцыя ландшафты з кукурузай і сланечнікамі. Многія аблагі, яшчэ не парослыя лесам, зноў зааралі і засеялі, што само па сабе здавалася нейкім цудам. Нашыя першыя пяць дзён падарожжа таксама былі надта прыгожымі, насычанымі пазітыўнымі эмоцыямі. Мне самой было дзіўна і нават сорамна карыстацца інфляцыяй, з-за якой кошт падарожжа значна панізіўся і кожны дзень даваў прыбытак ад абмену долараў. Мы не адважыліся пайсці на гуцульскую забаву, дзе абяцалі танцы і гулі да белага рання, прысмакі ды іншыя раскашы. Частка грамадства відавочна цярпела ад такога, што адбывалася на ўсходзе. Вайна найбольш палохала бацькоў, якія паслалі сваіх дарастаючых сыноў у армію, дзяўчат, якія рассталіся са сваімі хлопцамі, лекараў і вайскоўцаў, якія былі вымушаны паехаць на фронт. Украінцы, баявіты народ, ды сама вайна ўжо не так іх палохала... Больш за ўсё людзі баяліся бяды і голаду, быццам у памяці ўсё жыў успамін вялікага голаду, наведзенага зменай новага палітычнага ладу ў трыццатыя гады. Зараз, разам з карцінамі пра вайну і абстрэл, гаварылі пра мільёны ахвяр «Галадамору». Адчувалася, што разам з вайной прыйшоў момант, каб урэшце адпомсціць за пакуты ад бальшавікоў, дзе «Галадамор» быў самай вялікай траўмай, большай за сталінскія ссылкі і расстрэлы.

Як не дзіўна, амаль усе нашыя героі засяроджваліся на расказах пра яду, кулінарыю, пра прыпасы ў кладоўках, адразу на некалькі гадоў...

* * *

Ды чамусьці найбольш запамяталася манастырская сталоўка — «трапезная» ў Пачаеве. Гэтае месца найбольш змянілася за дзесяць апошніх гадоў. Калі ў 2004 годзе паломнікам прапанавалі ўсяго тры-чатыры сціплыя стравы, і гэта здавалася нечым добрым і на месцы, зараз тая самая сталоўка па ліку наведвальнікаў, прамаўляла як найбольшы атракцыён святога месца. Нам не прыйшлося дакладна палічыць усіх страў — іх было каля сотні або і больш. Сярод далікатэсаў былі тарты, пірагі з крэмавай начынкай, сырнікі і булачкі, некалькі відаў супу, у тым ліку з гародніны і рыбы, дзесьці каля трыццаці відаў салатаў, запяканыя баклажаны і цукінія, перац і памідоры з начынкай усярэдзіне, ды ўсё такое. Яшчэ больш здзівіла тут галерэя з рыбай і селядцамі, у тым ліку тоўстая масляная рыба з Арктычнага мора...

Пахі ды прэстыж месца памяняўся настолькі, што нават мясцовыя пачалі лічыць сталоўку лепшай, ды не па кішэні. Гэты раскошны абразок у сціплым месцы прамаўляў як спакушэнне. На шчасце сярод раскошнага дастатку і дабрабыту мы ўбачылі жывы вобраз мінулага. Ля касы сядзела бабулька ў хустцы і, як дзесяць гадоў таму, падлічвала закупленыя стравы на архаічных драўляных лічыльніках-счотах.

(працяг будзе)

Фота і тэкст ГАННЫ КАНДРАЦЮК


ISSN 0546-1960